ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXVII, № 240 New York, April — Красавік 1977 Vol. XXVII, № 240

## ПРЭЗЫДЭНТ ДЖЫМІ КАРТЭР У ВАБАРОНЕ ЛЮДЗКІХ ПРАВОЎ

Сваё становішча ў дачыненьні да паняволеных камунізмам народаў першы раз выказаў Джымі Картэр, тады яшчэ прэзыдэнцкі кандыдат, у часе дыскусіі 6 кастрычніка летась з Прэзыдэнтам Джэральдам Фордам у пытаньні замежнае палітыкі Задзіночаных Штатаў. Ужо на гэнай дыскусіі ён запярэчыў Прэзыдэнту Форду й прадставіў свой крытычны пагляд на дамінацыю Саветаў у Ўсходняй Эўропе. І далей у сваёй выбарнай кампаніі ён усьцяж варочаўся да гэтае тэмы, выказваючы знаёмства з праблемай паняволеных народаў ды асуджаючы іхнага панявольніка. І мы тады адчувалі ўдзячнасьць і рэспэкт да яго за выказваныя пагляды. Праўда, некаторыя з нас думалі, што гэныя выказваньні маглі быць і перадвыбарным манэўрам ды ўмелым выкарыстаньнем зробленае Прэзыдэнтам Фордам, як ён пазьней заяўляў, „памылкі". Аднак для тых, што ўмеюць глыбей пазнаваць людзей і вычуваць у іхных прамовах шчырасьць, справа была ясная — у васобе прэзыдэнцкага кандыдата Джымі Картэра мы бачылі высока маральнага, шчырага, патрыятычным ідэялізмам падмацаванага ды кампэтэнтнага ў палітычным аспэкце чалавека, пэўне-ж, зь некатрымі людзкімі хібамі меншага значаньня.

Вось ужо больш за тры месяцы й кіруе ён гэтай краінай, як ейны Прэзыдэнт, ня зрываючы кантактаў зь людзьмі — сваймі выбіральнікамі. Уводзіць новы Прэзыдэнт паступова й новыя парадкі ў штодзённай рутыне жыцьця краю, прысьвячаючы цімала ўвагі выкананьню абяцанак, што даваў у сваёй перадвыбарнай кампаніі. І людзі прыглядаюцца. Прыглядаецца й Кангрэс ды прэса. Шырыцца прызнаньне ягонае дзейнасьці.

Ня будзем спыняцца на іншых, хоць і вельмі важных адрэзках нутраное дзейнасьці новага Прэзыдэнта. Спынімся тут на найбольш для нас чулай, як палітычнай эміграцыі, праблеме вонкавай, якую ўзьняў і з посьпехам праводзіць у жыцьцё — на праблеме людзкіх правоў чалавека. Відаць ня перадвыбарным манэўрам было тое ягонае першае слова ў вабароне паняволеных народаў, бо вось наважана паставіў ізной гэтую праблему ўжо як Прэзыдэнт ЗША і вынес яе адкрыта ў сваёй прамове 17 сакавіка на сэсіі Задзіночаных Нацыяў. Паміж іншымі, закранутымі ў сваёй прамове справамі, прэцызуючы яе так: **„Ніводзін сябра Задзіночаных Нацыяў ня мае права ўважаць, што гвалціць людзкія правы сваіх грамадзян ёсьць справай вылучна дадзенага краю".** Перад гэтым Прэзыдэнт Джымі Картэр выказваўся на гэтую тэму ня раз пры меншых нагодах. Ён навет быў выслаў пэрсанальны ліст да ведамага савецкага дысыдэнта Сахарава й атрымаў ад яго лістоўны адказ. Ён запрасіў у Белы Дом і вітаў іншага савецкага дысыдэнта Букоўскага, што апыніўся на Захадзе.

Кажнае слова Прэзыдэнта на тэлевізіі няслося на хвалях эфіру на ўвесь сьвет. Яно даходзіла й да Брэжнева й надта-ж псавала яму нэрвы. І пачаліся дыялёгі між Брэжневам і Прэзыдэнтам Картэрам. Цікавыя дыялёгі! Злосна бушаваў Брэжнеў перад гандлёвай камісіяй 21 сакавіка. Б'ючы кулакамі па стале ў стылю Хрушчова, ён асуджаў Амэрыку, што яна быццам умешваецца ў нутраныя справы Савецкага Саюзу. Ён зьвінавачваў Прэзыдэнта Картэра, які быццам вядзе жудасную кампанію й распаўсюджвае міт пра мілітарную загрозу сьвету з боку Савецкага Саюзу ды што гэтая прапаганда станецца перашкодай да палепшаньня савецка-амэрыканскіх узаемадачыненьняў.

А 22 сакавіка падчас сустрэчы зь вядучымі сябрамі Кангрэсу ў прысутнасьці прэсавага сакратара Белага Дому Джодзі Повэла Прэзыдэнт Картэр адказваў Брэжневу, заяўляючы, што ён будзе й далей выступаць у вабароне людзкіх правоў на цэлым сьвеце. Прэзыдэнт выказваў перакананьне, што абедзьве кардынальныя справы: справа пагвалчаньня людзкіх правоў і справа дагавору САЛТ II, з увагі на іхную важнасьць, ня могуць быць злучаныя разам. А прысутны Дж. Повэл на заўвагу Брэжнева ў Маскве, што й Савецкі Саюз тады мае права камэнтаваць здарэньні ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі, адказаў: **„Амэрыканскі ўрад і амэрыканскі народ не баяцца адкрытай дыскусіі перад аўдыторыяй усяго сьвету на тэму розьніцаў між Савецкім Саюзам і ЗША, а наадварот, яны вітаюць гэткую дыскусію".**

Таго-ж самага дня 22 сакавіка пераслаў Прэзыдэнт Джымі Картэр пісьмовае пасланьне Кангрэсу, у якім заклікае прызнаць большыя, чымся дасюль, фонды для радыястанцыяў „Свабода" й „Вольная Эўропа", а таксама й для „Голасу Амэрыкі", каб павысіць дыяпазон і падвоіць сілу трансьмісіяў. На пабудову ІІ-ёх новых трансьмітараў для „Радыя Свабода" й „Вольная Эўропа" запрапанавана асыгнаваць 14,2 міліёнаў даляраў, а для 17-ёх трансьмітараў для „Голасу Амэрыкі — 30 міліёнаў даляраў (5 новых трансьмітараў для абслугоўваньня Савецкага Саюзу й Усходняе Эўропы ды 12 для Ўсходняй Афрыкі й Заходняга Пацыфіку). Сваю прапанову Прэзыдэнт Джымі Картэр абгрунтоўваў гэтак: **„Сучасная адміністрацыя падтрымлівае згаданыя інтэрнацыянальныя трансьмісіі як частку ейнага абавязку зрабіць больш даступнымі перадаваньні інфармацыяў, ідэяў і паглядаў, бо гэтыя тры радыястанцыі ўжо на працягу многіх гадоў сталіся неабходнай часткай жыцьця народаў Усходняе Эўропы й народаў Савецкага Саюзу".**

**„Нашая аўдыторыя, што заслугоўвае на асаблівую ўвагу, у Савецкім Саюзе й Усходняй Эўропе, —** працягваў Прэзыдэнт у сваім пасланьні Кангрэсу ЗША, **— там, дзе цэнзура й кантроль над мясцовымі радыястанцыямі даюць людзям схвальшаваныя або недастатковыя весткі ня толькі ў іхных сорбскіх краёх і весткі з цэлага сьвету . . . Гэтыя дзьве радыястанцыі маюць спэцыяльнае заданьне выклікаць канструктыўны дыялёг з народамі Савецкага Саюзу й Усходняе Эўропы".**

Калі-ж давялося засесьці пры супольным стале дзеля перагавораў у пытаньні САЛТ II прадстаўнікам Задзіночаных Штатаў і Савецкага Саюзу ў Маскве 28 сакавіка, дык ані ня было спрыяльнай атмасфэры для канструктыўнай працы. Хоць у гутарках было пакладзенае „табу" на пытаньне людзкіх правоў,

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

## УГОДКІ 25 САКАВІКА Ў НЬЮ ЁРКУ

Сьваткаваньне 59-ых угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі адбылося ў Нью Ёрку ў нядзелю 27 сакавіка. Было яно зладжанае Галоўнай Управай і аддзеламі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку й Нью Джэрзі ды Арганізацыяй Беларуска-Амэрыканскае Моладзі.

Гэтай-жа нядзелі нараніцы ў катэдральным саборы БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ягоны настаяцель пратаярэй а. Васіль Кендыш адправіў Сьвятую Літургію, а тады ўрачысты Малебен ды сказаў патрыятычны казань, прысьвечаны ўгодкам. Царкоўны хор пад кіраўніцтвам сп. Міхася Тулейкі, папоўнены харыстымі царкоўнага хору з Гайлэнд Парк, сваім сьпевам упрыгожваў Багаслужбы.

Папаўдні таго-ж дня ў залі Віндсор, удэкараванай нацыянальнымі сьцягамі й Пагоняй, у гатэлі Білтмор на Мангэтэне адбыўся ўрачысты сход, які адчыніў старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелайць, а ведамая беларуская салістка Ліза Маркоўская пад акампаньямант на піяніне праф. Эльзы Зубковіч прапяяла амэрыканскі нацыянальны гімн, а пратаярэй а. Васіль Кендыш сказаў наступную малітву:

**„Усемагутны Божа, Ойча наш Нябесны! Мы, дзеці Твае нізка схіляем свае галовы перад Табою, славім Цябе й шчыра дзякуем Табе за ўсе дабрадзействы, якімі Ты абдарыў нас, Амэрыку й ейны народ.**

**Прадвечны Божа, Збаўца наш! Мы шчыра молімся да Цябе сяньня: пашлі Сваю ласку й апеку паняволенаму Беларускаму Народу, які 59 гадоў таму абвесьціў Незалежнасьць свае Беларускае Народнае Рэспублікі й які праз гэтыя цяжкія дзесяцігодзьдзі ня спыняе змаганьня за сваё вызваленьне ад зьняволеньня бязбожных уладаў ды зь цьвёрдай надзеяй, што з Тваёю дапамогай і ён будзе цешыцца тэю свабодай, якая зьяўляецца асновай жыцьця ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі.**

**Мы молімся сяньня, каб дабрадзействы свабоды, якія прыносіць дэмакратычны лад усяму вольнаму сьвету, сталіся сьвятлом і заахвочаньнем для Беларускага Народу, бо надзея на вячыстую свабоду ня згасла сярод яго, але як сьветач палымнее ў глыбінях сэрцаў зь нязгаслым жаданьнем належыць да сям'і вольных народаў, што шануюць Бога.**

**Госпадзе Божа, Спасе наш! Мы зь вераю молімся да Цябе: прымі гэтую малітву нашую, багаславі Задзіночаныя Штаты Амэрыкі й нашую Маці Беларусь! Няхай сьвяціцца імя Тваё, Божа й Спасе наш, пануе й зьзяе ў сэрцах нашых цяпер, заўсёды й навекі вякоў. Амінь!"**

Старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелайць, прывітаўшы прысутных, прачытаў зварот і заклік старшыні Рады БНР д-ра В. Жука-Грышкевіча „Да Беларускага Грамадзтва ў Беларусі й Вольным Сьвеце", які быў зьмешчаны перад гэтым у сакавіковым нумары „Беларуса", ды перадаў далейшае вядзеньне праграмы віцэ-старшыні Галоўнай Управы БАЗА інж. Вячаславу Станкевічу. Старшыня Аддзелу АБАМ у Нью Джэрзі Алеся Кіпель прачытала праклямацыю Губэрнатара Нью Джэрзі пра абвешчаньне дня 25 сакавіка сёлета Днём Незалежнасьці Беларусі ў гэтым штаце. Тады старшыня сходу прачытаў прывітаньне Дзяржаўнага Дэпартаманту ад імя Прэзыдэнта ЗША Джымі Картэра ў вадказ на просьбу Галоўнай Управы БАЗА, у якім, вітаючы ўдзельнікаў сьвяткаваньня, Прэзыдэнт ЗША выразіўся: **„Нашая краіна можа быць гордай зь дзейнасьці Амэрыканцаў Беларускага паходжаньня. Я ўпэўнены, што гэты іхны ўклад у амэрыканскае жыцьцё будзе й надалей узбагачваць амэрыканскую нацыю".** Цытаваліся ўрыўкі й былі пералічаныя многія праклямацыі штатаў праклямацыі губэрнатараў штатаў (праклямацыі губэрнатараў штатаў Канэктыкэт і Дэлявэр) і гарадоў ЗША ды прамовы, сказаныя на бегрэсмэнамі ў Кангрэсе ЗША, агляд якіх падаецца на іншым месцы.

Таксама былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні пабеларуску ад: Задзіночаньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі, Аўстралія, Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, Аўстралія, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Беларускага Вызвольнага Фронту, Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня ў Нью Ёрку.

З прывітаньнем ад Рэдакцыйнае Калегіі газэты „Беларус" выступіў ейны старшыня й галоўны рэдактар „Беларуса" д-р Станіслаў Станкевіч. Ён гаварыў пра тое, што калі 60-ыя ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі, якія на загад Камуністычнай партыі шумна сьвяткуюцца ў БССР на працягу цэлага сёлетняга году, прынесьлі Беларускаму народу маскоўскую няволю, дык Акт 25 Сакавіка 1918 году быў актам усенароднае волі й законна выказанага народнага голасу. Сваю прамову д-р Ст. Станкевіч закончыў словамі: **„Паняволеная Бацькаўшчына моцна патрабуе нашае дапамогі. І мы, карыстаючыся нагодай жыць у Вольным Сьвеце й тым самым будучы пазбавіўшыся варожага перасьледу, дапамогу гэтую, як палітычныя эмігранты, даць мусім. Мы не павінны скупіцца ні працай, ні часам, ні таксама матарыяльнай дапамогай для вызвольнае справы. Даваць мы павінны ня дзеля людзкога вока й не адчэпнага адно, бо кажная ахвяра толькі тады ёсьць ахвярай ад шчырага сэрца, калі яна адчувальная для таго, хто яе дае. Мы павінны йсьці ў вадзіным змагарным фроньце з усімі людзьмі ідэі, незалежна ад арганізацыйных формаў іхнага палітычна-грамадзкага жыцьця й дзейнасьці".**

Пасьля гэтага старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелайць зьвярнуўся да прысутных із заклікам згодна з традыцыяй мінулых гадоў злажыць грашовыя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса". Было заахвяравана $ 456. 00.

Тады выступіў д-р Янка Запруднік із старанна апрацаваным і войстра актуальным рэфэратам у беларускай мове „У змаганьні за правы народу". Тэкст рэфэрату друкуецца на іншым месцы ў гэтым нумары „Беларуса".

Кароткі, але добра апрацаваны рэфэрат паангельску „Чаму мы адзначаем 25 Сакавіка" прачытаў старшыня Галоўнай Управы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Юрка Азарка. Ён выказаў глыбокую думку, што якраз у часе, калі мы пазбаўленыя сваёй дзяржаўнай незалежнасьці, мы тымбольш павінны прыпамінаць мамэнт ейнага аднаўленьня й сьвяткаваць ейныя ўгодкі, каб яшчэ ў большай ступені працаваць і змагацца за незалежніцкую ідэю.

Мастацкая праграма сьвяткаваньня, хоць і сьціплая з колькаснага боку, была аднак на высокім якасным узроўні. Пасьля высокамастацкіх выступленьняў пад акампаньямант на піяніне праф. Эльзы Зубковіч сьпявачкі Лізы Маркоўскай зь песьнямі беларускіх кампазытараў на словы беларускіх паэтаў ды выступленьня таленавітага маладога салістага Данчыка Андрусышына з рамансамі й жаўнерскай песьняй „У гушчарах" на словы Натальлі Арсеньневай музыкі камп. Эльзы Зубковіч, прысутных чаравала выступленьне з народнымі песьнямі й на словы беларускіх паэтаў ведамага ў Нью Ёрку вакальнага сэкстэту „Гоман" у складзе таленавітых сьпявачак Веры Бартуль, Алі Рамана, Галіны Орсы, Л. Маркоўскай, Г. Тэдон і В. Заморскай пры акампаньяманьце на піяніне Ніны Запруднік.

Танцавальная група „Васілёк" Аддзелу АБАМ у Нью Джэрзі пад кіраўніцтвам Алы Рамана жыва пратанцавала „Лявоніху".

Урачысты сход закончыўся агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Неабходна з прыемнасьцяй адзначыць, што да 59-ых угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі была выдадзеная Галоўнай Управай БАЗА й пашыраная на ўгодках сьвяткаваньня ў Нью Ёрку прыгожа аформленая брашура ў ангельскай мове Bylorusian Independence Day in America's Bicentennial Year". Брашура, апрацаваная д-рам Янкам Запруднікам, пачынаецца прадмовай старшыні Галоўнай Управы БАЗА Антона Шукелайця ды зьмяшчае зьмястоўны інфармацыйны ўводны артыкул д-ра Я. Запрудніка, усе тры Ўстаноўныя Граматы Рады БНР у ангельскім перакладзе ды праклямацыі губэрнатараў штатаў і бурмістраў гарадоў, а таксама выступленьні сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША на 58-ыя леташнія ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

**Ст. Ст.**

## СЁЛЕТНІ БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

GARDEN STATE ART CENTER
proudly presents
BYELORUSSIAN FOLK FESTIVAL
SATURDAY, MAY 21, 1977
SPORTS ACTIVITIES • ART EXHIBIT • STAGE PERFORMANCE • ETHNIC FOOD
Additional information about the Byelorussian Folk Festival is available by calling the GARDEN STATE ARTS CENTER, 201-442-8600, ext. 222, 9:00 A.M. to 4:30 P.M. weekdays.

Калі гэты нумар „Беларуса" ішоў у друк, было ўжо прададзена каля паўтары тысячы білетаў на фэстываль. Нашым-жа забавязаньнем — прадаць праз беларускія арганізацыі прынамся дзьве з палавінаю тысячы.

Фэстывальны камітэт зварачаецца да беларускіх арганізацыяў, цэркваў і паасобных суродзічаў з просьбай набываць для сябе ды прадаваць іншым білеты перад фэстывалем, зарабляючы гэтым па адным даляры ад білету для свае арганізацыі ці царквы.

Па дэталі аб груповых білетах зварачайцеся да сп. сп.:
Васіля Русака на тэлефон: 201-246-2145 або
Віталя Цярпіцкага на тэлефон: 201-257-6844.

**В. Кіпель, Старшыня Фэстывальнага К-ту**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $10.00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

**ПРЫНЯТАЯ НА СЬВЯТКАВАНЬНІ 59-ЫХ УГОДКАЎ БНР У НЬЮ ЁРКУ**

Сябры Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ды ўдзельнікі сьвяткаваньня ў Нью Ёрку 27 сакавіка 1977 году 59-ых угодкаў абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі гэтым зварачаюцца да ўраду Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, да Прэзыдэнта Джымі Картэра асабіста, да ўсіх сяброў Кангрэсу Задзіночаных Штатаў і да ўсіх палітычных ды грамадзкіх дзеячоў Амэрыкі з заявай, што на Беларусі савецкая ўлада гвалціць грамадзянскія, рэлігійныя й нацыянальныя правы, ды з просьбай заступіцца за ахвяраў гэтага перасьледу. Пакольні савецкая ўлада намагаецца хаваць перад сьветам злачынствы супраць сваіх грамадзянаў за іхныя палітычныя ці рэлігійныя перакананьні, і дакладны лік гэткіх людзей на Беларусі няведамы — ён вымяраецца тысячамі — можна ўстанавіць адно невялікую частку прозьвішчаў ахвяраў перасьледу на працягу апошняга пятнаццацігодзьдзя. Некаторыя з гэтых людзей магчыма ўжо ня жывуць, шмат якія ўсё яшчэ пакутуюць па турмах, канцлягерах ды ссыльных месцах Савецкага Саюзу, іншыя-ж, хоць і выпушчаныя на гэтак званую волю, церпяць далей ад афіцыйнае дыскрымінацыі й перасьледу ды пазбаўленыя ў большай або меншай ступені сваіх грамадзкіх правоў. Прозьвішчы іхныя ніжэй залучаем ды просім усіх абаронцаў людзкіх правоў зрабіць магчымыя захады, каб перасьлед гэтых людзей быў спынены.

Вось гэныя прозьвішчы: 1. Арцюх Уладзімер Андрэевіч з Ваўкавыску; 2. Арцюх Пётра Андрэевіч з Ваўкавыску; 3. Барушка Рыгор Рыгоравіч, Беларус з Адэсы; 4. Гаўрыленка Т. І. з Хойнікаў; 5. Гаўрыловіч Уладзімер Канстантынавіч зь вёскі Лапуты пад Докшыцамі; 6. Забіран В. Я. з Гомеля; 7. Запатылак Васіль Адамовіч зь вёскі Сьветач пад Сьветлагорскам; 8. Карэтка Мікалай Аляксандравіч з Камянца Берасьцейскае вобласьці; 9. Кавалёў Н. А. з Гомеля; 10. Козін Ніл Мікалаевіч з Гомеля; 11. Калясьнічэнка Аляксандар Пётравіч з Гомеля; 12. Калясьнічэнка Міхаіл Андрэевіч з Гомеля; 13. Капянкоў Ф. Е. із станцыі Вусьць Гомельскае вобласьці; 14. Катовіч І. А. зь Берасьця; 15. Кураш Пётра Сьцяпанавіч зь вёскі Курашы Верхнядзьвінскага раёну; 16. Лазута Н. Н. зь вёскі Бародзічы Зэльвенскага раёну; 17. Лудко Г. С. зь Сьветлагорску; 18. Люсэнка В. Д. зь Сьветлагорску; 19. Мацьвеюк Сьцяпан А. зь Берасьця; 20. Маджара А. Е. з Гомеля; 21. Піліпенка Аляксей П. зь Менску; 22. Прахарэнка Ф. Я. зь Віцебску; 23. Рамашкевіч Сьцяпан Дзьмітравіч з Магілева; 24. Рыжук Васіль Фёдаравіч зь вёскі Дубравы Верхнядзьвінскага раёну; 25. Сільчукоў Аўген Іванавіч із Слуцку; 26. Слабада Віктар Фёдаравіч зь вёскі Дубравы Верхнядзьвінскага раёну; 27. Слабада Надзея Сьцяпанаўна зь вёскі Дубравы Верхнядзьвінскага раёну; 28. Сыч Міхаіл зь Віцебску; 29. Таўрылюк А. Я. з Гомеля; 30. Талалуеў Іван Архіпавіч, Беларус з Краснадару; 31. Тарасэвіч Уладзімер Іванавіч з Баранавічаў; 32. Цішкоў І. С. з Гомеля; 33. Траціньнікаў Кузьма Мікітавіч зь вёскі Вуць на Гомельшчыне; 34. Тупальскі Е. Н. з Гомеля; 35. Федарчук Е. Н. зь Берасьця; 36. Фролаў Андрэй Фёдаравіч з Гомеля; 37. Хаторкін Г. Е. зь вёскі Сьветач пад Сьветлагорскам; 38. Шапятунка Г. Н. зь Берасьця; 39. Шлюк М. А. з Ваўкавыску; 40. Шугала Н. В. зь вёскі Бародзічы Зэльвенскага раёну; 41. Антаненка Ўладзімер І. зь Менску; 42. Макарэнка Рыгор М. зь Менску; 43. Прахарэнкаў Аляксей Міканоравіч з пасёлку Рыбацкае на Гомельшчыне; 44. Каржанец Лідзія Аляксандраўна (месца жыхарства тымчасам не ўстаноўленае); 45. Русавук Андрэй Пётравіч; 46. Масюк Ніна Тамашаўна; 47 Пацукевіч Якуб Васілевіч зь Пінску; 48. Барычэўскі Васіль Кірылавіч зь Пінску; 49. Пузо Пётра з Шаркаўшчыны Віцебскае вобласьці; 50. Атрахімовіч Зыгмунт з Шаркаўшчыны; 51. Бясько Ўладзімер Іванавіч зь вёскі Дразды Стаўпецкага раёну; 52. Бухавец Арцём Аляксандравіч з Рудні Карэліцкага раёну; 53. Ціхно Ўладзімер Язэпавіч з Баранавічаў; 54. Ляхновіч І. П. з пасёлку Ратамка каля Менску; 55. Бараноўскі Н. Н. з пасёлку Лясное Менскага раёну; 56. Стральцоў А. Х. з Барысава; 57. Мягкоў Валеры зь Менску.

## САКАВІКОВАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў ТАРОНЬЦЕ

Як ужо ўвайшло ў традыцыю, і сёлета мэр гораду Таронта сп. Д. Кромбі выслаў на імя сп. П. Пашкевіча, віцэ-старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, прывітаньне з нагоды сьвяткаваньня 59-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. А ў самы дзень 25-га сакавіка перад ратушай гораду Таронта лунаў беларускі бел-чырвона-белы сьцяг.

На сьвяткаваньне 59-х угодкаў нацыянальнага сьвята трапіўся прыгожы пагодны дзень. Папрыяжджалі ў Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтар ня толькі мясцовыя, але й некаторыя нашы суродзічы з Атавы, Кінгстану, Лёндану й Стратфарду. Сьвятую Літургію ў царкве БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага служыў Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Мікалай, які напрыканцы службы прапанаваў „многая лета" ўсім заслужаным і працуючым для вызваленьня Беларусі сыном і дочкам, на чале з прысутным старшынём Рады БНР д-рам Жук-Грышкевічам.

Урачыстую акадэмію ў вялікай залі адчыніў старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады, сп. В. Касьцюкевіч. Прысутныя адсьпявалі „Беларусь, наша маці-краіна". Далей парадкам дня кіравала д-р Раіса Жук-Грышкевіч. Старшыня Рады БНР у сваім прывітальным слове выказаўся,што сёлета прыпадае іншая вельмі важная дата: 60-я ўгодкі Беларускай Нацыянальнай Рэвалюцыі, што закончылася з посьпехам Усебеларускім Кангрэсам у сьнежані 1917-га году. Гэтыя ўгодкі ён прапанаваў асобна адсьвяткаваць.

Старшыня Беларуска-Канадыйскага Каардынацыйнага Камітэту, д-р Б. Рагуля, навязваючы да апошніх палітычных падзеяў, гаварыў пра змаганьне за правы чалавека ў паняволенай Беларусі й Расеі. На ягоную думку, мы павінны больш памагаць нашым зьняволеным суродзічам. Др. Рагуля прабачаўся ад сябе й свайго заступніка ў БККК П. Пашкевіча, што не ўдалося зрабіць супольнага сьвяткаваньня ў Тароньце, як гэта было доўгі час раней.

Першы разрыў наступіў летась на Дзень Гэрояў, калі, згодна ранейшае ўмовы, сьвята мела адбыцца ў БРГЦ на 524 Сан Клеранс. На гэна сьвята ня прыйшоў аніводзін сябра ці сяброўка парахвіі сьв. Афрасіньні Полацкай з Довэркорт вуліцы. Відаць, што акцыя была арганізаваная. Да сяньня яшчэ не давялося чуць пра нейкае афіцыяльнае выясьненьне такой акцыі з боку БНА ці ўправы Парахвіі Сьв. Афрасіньні.

Д-р Рагуля зьвярнуў увагу й на небясьпеку распаду Канады й заклікаў супрацьдзеяць такой шкоднай акцыі.

Старшыня Таронцкага адзьдзелу ЗБК, сп. М. Ганько, вельмі трапна спасьцярог, што ня гледзячы на доўгае прабываньне на чужыне дый на тое, што ёсьць вялікія магчымасьці, каб вучыцца самім і вучыцца ад іншых народаў, шмат нашых людзей, на вялікі жаль, асталіся „духовымі жабракамі", пагнаўшыся адно за грашмі. Перад тым, каб гэткія людзі маглі памагаць сваім у паняволенай бацькаўшчыне вызваліцца з маскоўскага ярма, ім самім патрэбнае духовае вызваленьне.

„Наша моладзь", — як яе назвала д-р Раіса Жук-Грышкевіч, выступіла на сцэне ў ліку дзьвёх дачок сп-ва Сурвілаў і Юльяны Грыцук. Прыгожа адсьпявалі яны „Люблю наш край", Паўлінка Сурвілішка дэклямавала верш „Не загіне край наш родны", а старэйшая Сурвілішка Коласаў „Край мой родны". Пасьля гэтага кіраўнічка акадэміі падзякавала моладзі й сьвята закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

**К.**

# У ЗМАГАНЬНІ ЗА ПРАВЫ НАРОДУ

**(ПРАМОВА Д-РА ЯНКІ ЗАПРУДНІКА НА СЬВЯТКАВАНЬНІ САКАВІКОВЫХ УГОДКАЎ У НЬЮ ЁРКУ)**

Сьвяткаваньне нашае адбываецца ў пэрыядзе гэтак званага „мірнага суйснаваньня дзяржаваў з рознымі сыстэмамі". Але дзяржавы з рознымі сыстэмамі ўкладаюць і розны сэнс у тое, што гэта — „мірнае суйснаваньне".

Для савецкага боку „мірнае суйснаваньне" значыць завойстранае ідэялягічнае **змаганьне.** Калі ў кастрычніку 1975 году француські прэзыдэнт Жыскар д'Эстэн і быў у Маскве запрапанаваў Брэжневу пачаць „ідэялягічны дэтант", пачуў ад Брэжнева адказ: „Паслабленьне міжнароднага напружаньня ніякім парадкам не выключае **змаганьня ідэяў".** Прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Джымі Картэр, зусім пасьлядоўна, прабуе тарнаваць цяпер гэты прынцып і да самое Масквы.

У сваім азначэньні „мірнага суйснаваньня" Крэмль — шукаючы шляхоў пашырэньня ўплываў у сьвеце — надае асаблівую вагу г. зв. „**нацыянальна**-вызвольным войнам", гэтым прызнаючы, між іншага, сілу **нацыяналізму** як фактару гістарычнага разьвіцьця. Але праблему з тым-жа фактарам Масква мае і ўнутры свае імпэрыі.

Пытаньне нацыянальных правоў становіць для савецкага рэжыму адно з самых чульлівых месцаў — у сувязі якраз з нацыянальным бяспраўем. Беларускі народ церпіць асабліва ад гэтага бяспраўя, і мы сяньня сьветкамі, як расьце штораз вайстрэйшае адчуваньне гэтага ненармальнага стану. Выростае гэтае адчуваньне із свайго прыроднага псыхалягічнага грунту. Бо кажны нармальны чалавек любіць сваіх бліжніх, любіць свой край, любіць свой народ. У сучаснай беларускай культуры — асабліва зырка гэта відаць у літаратуры — любасьць да свайго краю становіць асноўную характарыстыку. Яшчэ ў 1968 годзе беларускі паэта, ён-жа й выкладчык вышэйшае навучальнае ўстановы рэспублікі, Алег Лойка, адзначыў як асабліва істотную тэндэнцыю беларускай сучаснай паэзіі „актыўны патрыятычны пафас апяваньня **любові** да Беларусі, да роднае мовы, цікавасьць да гісторыі народу".

Нішто гэтак як любасьць не дае імпульсу да шуканьня праўды. Любасьць спараджае праўду. Любасьць да свайго народу прадыктавала радкі паэту:

Пушчалі ў вочы досыць дыму!
Паэты пачынаюць думаць.
Асацыяцый караваны
Па ўсіх радкох накіраваны.

Або:
Мы — фізыкі,
мы — лірыкі,
мы — сьскептыкі.
Мы часта, дзе ня трэба, рвёмся
ў бой.
Над мудрасьцю,
бывае,
строім кепікі,
А глупста падымаем над сабой.

Цімала й дасюль на Беларусі „строіцца кепікаў", цімала й дасюль глупстваў „падымаецца над сабой". Але „асацыяцый караваны па ўсіх радкох накіраваны" — па радкох літаратуры, мастцтва й мастацтвазнаўства... — па радкох літаратуры, мастцтва й мастацтваведы, гістарыяграфіі ды палітычнага мысьленьня. Дарма партыя намагаецца трымаць манаполь на мудрасьць, манаполь на думаньне. Людзі думаюць, бо людзі адчуваюць. Можна зачыніць рот чалавеку, можна здушыць голас, але нельга задушыць пачуцьцяў, голасу душы. Затым вось гэткая вялікая й збаўленная роля мастацтва ў жыцьці нашага народу. У мастацтве й праўда.

Адзін зь герояў аповесьці Васіля Быкава „Трэцяя ракета" кажа: „Я заўсёды нашу ў сабе стрыманы, маўклівы гонар, што я — Беларус". Стрыманасьць і маўклівасьць — наша нацыянальная характарыстыка. Стрыманасьць і маўклівасьць у нас бываюць вельмі даўгімі. Але ўсё мае свае межы, свой канец. Стрыманасьць і маўклівасьць канчаюцца там, дзе пачынаецца пагроза духовае сьмерці народу. Сымптомы гэтае пагрозы выяўляюцца на Беларусі ў шмат чым: у выцісканьні беларускае мовы з афіцыйнага ўжытку, у зацісканьні беларускага нацыянальнага рэпэртуару ў тэатрах і кінамастацтве, нат у бязупынных прысягах паэтаў і пісьменьнікаў на вернасьць сваёй роднай мове, бо чым як не пагрозай сьмерці выкліканыя гэтыя прысягі. Усьведамленьне гэтае пагрозы войстрае, войстрае таксама адчуваньне патрэбы не дапусьціць да таго, каб хваля русыфікацыі захлынула Беларусь. Відаць гэта хоць-бы й з гэткае парады, якую нядаўна адзін зь беларускіх пісьменьнікаў даваў сваім малодшым сябром, што ставяць свае першыя крокі ў літаратуры (летась, паводля падліку др. Станіслава Станкевіча, беларуская літаратура на бацькаўшчыне ўзбагацілася 35-ма пачаткоўцамі): „Трэба пачынаць з усьведамленьня, што наша літаратура — вечная, што ёй жыць і праз сотні, і праз тысячы гадоў. Што пачалася яна ня ўчора й не пазаўчора, як думаюць некаторыя недасьведчаныя таварышы, — шмат стагодзьдзяў назад. Разуменьне вось гэтага — што ў нашай літаратуры за плячыма доўгія стагодзьдзі, а наперадзе — яшчэ даўжэйшыя, — неабходнае маладому пісьменьніку для таго, каб ніколі ня страціць веры ў высокую грамадзкую місію слова, якім ты жывеш і зь якім зьвяртаешся да народу, каб ніколі не апусьціць крыльле і ня ўпасьці ў роспач".

Але як паглядзіш на некаторыя рэчы, дык роспач пачынае апаноўваць. Пачуцьцё гэтае чужое нат некаторым беларускім камуністым, у тым ліку, відаць, і сакратару партыйнае арганізацыі Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, які наракаў нядаўна ў друку: „Вучні ня маюць на роднай мове сусьветнай клясыкі: Жуля Вэрна, Майн Рыда, Марка Твэна, Фэнімора Купэры і многіх іншых". Ня маюць вучні і шмат якіх сваіх клясыкаў.

Але — „асацыяцый караваны па ўсіх радкох накіраваны"! Цяпер сёй-той на Беларусі пачынае прыглядацца да дэмаграфічнае й культурнае статыстыкі ды ставіць пытаньне суадпаведнасьці із статыстыкай нацыянальна-культурнае палітыкі — гэта значыць, што калі 80 працэнтаў Беларусаў уважаюць за сваю родную мову мову беларускую, дык трэба, каб адпаведная прапорцыя трымалася і ў выдавецкай палітыцы, і ў іншых дзялянках культуры.

Пачынаюць думаць ня толькі паэты, гісторыкі таксама. У часапісе „История СССР", у другім леташнім нумары, дадзены рэдакцыйны агляд некаторых характэрных рысаў сучаснага этапу разьвіцьця гістарычных навукаў у саюзных рэспубліках. Вось адна з характэрных рысаў:

„Павышаецца наступальнасьць змаганьня супраць буржуазнае ідэялёгіі". Выраз „змаганьне з буржуазнай ідэялёгіяй" у савецкім ужытку ня значыць нічога іншага, як рост нацыянальнае сьведамасьці й абумоўленых ёю дамаганьняў. У гэткім якраз кантэксьце трэба разумець і перасьцярогу першага сакратара кампартыі Беларусі Машэрава, зь якою ён выступае на розных зьездах, пленумах і канфэрэнцыях: „На асаблівую ўвагу заслугоўваюць пытаньні змаганьня супраць рэцыдываў нацыяналізму й нацыяналістычных паглядаў" („Коммунист Белоруссии", 1972, № 3, б. 17).

На гэтым тыдні дзяржаўны сакратар ЗША Ванс паехаў у Маскву на перамовы, у якіх будзе напэўна закранацца й пытаньне людзкіх правоў у сьвеце, а ў тым ліку і ў Савецкім Саюзе. У сувязі з гэтым 58-ёх амэрыканскіх сэнатараў зьвярнулася зь лістом да прэзыдэнта Картэра, у якім кажацца: „Мы падтрымваем Вашыя намаганьні сказаць народам сьвету, што амэрыканская замежная палітыка будзе й надалей прысьвечаная справе свабоды".

Сяньня ў Амэрыцы вельмі шмат гаворыцца пра „людзкія правы", але рэдка можна пачуць пра нацыянальныя правы. Затым вось вельмі важна адзначыць тут, што 25 сакавіка сёлета сэнатар Робэрт Доўл у сваім выступленьні ў сэнаце ЗША з нагоды 59-ых угодкаў БНР, сказаў: „Савецкай палітыкай заўсёды было ігнараваць ня толькі правы чалавека, але й нацыянальныя правы". Кангрэсмэнка Мілісэнт Фэнўік у гэткай-жа сваёй прамове сказала: „Тыя з нас, што могуць свабодна гаварыць, пэўна-ж маюць за абавязак сказаць сыном і дочкам Беларусі, што яны ў гэты дзень ня будуць забытыя".

Каб сыны й дочкі Беларусі, што працуюць і змагаюцца дзеля дабра свайго роднага краю й свае нацыянальнае культуры, ведалі, што яны маюць падтрыманьне з нашага боку ды з боку ўсіх нашых палітычных прыяцеляў, я прапаную прыняць тут рэзалюцыю наступнага зьместу (друкуецца на іншым месцы гэтага нумару газэты — Рэд.).

## ПАДЗЯКА

Гэтымі сьціплымі словамі хачу падзякаваць шчыра Паважанай Рэдакцыі „Беларуса" за прывітаньні ў сувязі з атрыманьнем мною ступені доктара гістарычных навукаў на Мадрыдзкім Унівэрсытэце. Адначасна дзякую ўсім тым сябром і знаёмым, якія, з гэтае-ж самае нагоды, прыслалі мне ў свой час асабістыя прывітаньні й пажаданьні плённае працы на будучыню.

У часе падрыхтоўваньня доктарскай дысэртацыі мне даводзілася шмат быць залежным ад асабістых кантактаў і дапамогі нашых навукоўцаў на чужыне. Таму ўважаю сваім абавязкам падзякаваць ад шчырага сэрца ўсім тым, хто так ці йначай дапамог мне патрэбнымі матарыяламі ў маёй працы. Асабліва шчырае дзякуй: кіраўніку Беларускай Бібліятэкі ймя Францішка Скарыны ў Лёндане Айцу Аляксандру Надсону, Дактаром Вітаўту Кіпелю, Янку Запрудніку, Вітаўту Тумашу й Стасю Станкевічу зь Нью Ёрку, Магістру Вацлаву Пануцэвічу з Чыкага й Магістру Паўлу Урбану зь Мюнхэну.

**Д-р В. Сенкевіч**

## ПРЭЗЫДЭНТ ДЖЫМІ КАРТЭР У ВАБАРОНЕ...

**(Закачэньне з 1-ай бачыны)**

аднак справа гэтая ўсьцяж вісела ў паветры й дзеіла дэструкцыйна на савецкіх лідэраў, перадусім на Леаніда Брэжнева. І не зважаючы на тое, што абодвым бакам залежыла на тым, каб весьці гэтыя перамовы да прыймальнага для іхных удзельнікаў пагадненьня, якое давала-б большую ўпэўненасьць дзеля далейшага мірнага суіснаваньня народаў сьвету; не зважаючы на тое, што абодвым баком залежыла на далейшай палітыцы дэтанту, а найбольш Савецкаму Саюзу з увагі на гандлёвыя дачыненьні з Амэрыкай у справе закупу пшаніцы й продажы савецкай прадукцыі; ды не зважаючы на тое, што наяўнасьць у Задзіночаных Штатах дасканалай мэханічна сканструаванай атамнай ракеты „Круз Місэль" выклікала ў Саветаў панічны страх, — усё-ж не зважаючы на ўсё гэта, абедзьве вэрсіі дагавору, запрапанаваныя Задзіночанымі Штатамі, былі, навет без дастатковага іхнага разгляду, Брэжневам адкінутыя. І перамовы сарваліся. Нам ня ведама, якіх заблытаных дарог будзе шукаць Палітбюро, каб выйсьці з крытычнага палажэньня, адно мы пэўныя, што перамовы-таргі будуць прадаўжацца.

За сяньняшняй палітычнай пазыцыяй Прэзыдэнта Джымі Картэра згодна стаіць Кангрэс і амэрыканскі народ у вялікай сваёй бальшыні. Стаяць на 100% за ім і палітычныя эміграцыі паняволеных камунізмам народаў, і яны, у тым ліку й Беларусы шчыра спадзяюцца, што Прэзыдэнт знойдзе ў сабе даволі моцы, каб у сваёй вонкава-палітычнай дзейнасьці апраўдаць давер народу. І з гонарам і адвагаю паднятую абарону пакрыўджаных і паняволеных камунізмам людзей і цэлых народаў будзе весьці далей, бо, як ён няраз заяўляў і ўсьцяж заяўляе: **„абарона правоў чалавека па ўсім сьвеце ёсьць маральным абавязкам нашае вольнае бацькаўшчыны"!**

**З. Станкевіч**

## САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ



Кліўлендзкі жаноцкі хор „Васількі" пад кіраўніцтвам Колі Стрэчаня

Сёлета сьвяткаваньне Сакавіковых Угодкаў адбылося ў Кліўленьдзе ў нядзелю 27 сакавіка, якое зладзіў мясцовы Аддзел БАЗА. Айцец Рыгор у суслужэньні з а. Максімам з Дэтройту й протадыяканам а. Міхасём Страпком адправілі Сьвятую Літургію й Малебен за Беларусь. Айцец Рыгор прывітаў прысутных агульна падчас казані ў ангельскай мове зь беларускім нацыянальным сьвятам, а а. Максім пабеларуску, моцна падчыркнуўшы важнасьць нацыянальных угодкаў для беларускага народу ды выразіўшы надзею й веру ў хуткае ўжыцьцяўленьне ідэяў 25 Сакавіка.

А 3-яй гадзіне папаўдні ў царкоўнай залі адбыўся ўрачысты сход, які адчыніў старшыня Аддзелу БАЗА Янка Раковіч. Прывітаўшы прысутных, ён коратка падчыркнуў значаньне Сакавіковых Угодкаў ды прадставіў сп-чню Галіну Кананчук, якая вяла ўсю сьвяткавальную праграму.

Прынагодны рэфэрат прачытаў сп. Міхась Белямук. Ён схарактарызаваў гістарычныя падзеі й разьвіцьцё вольнае беларускае дзяржавы ў далёкай мінуўшчыне, пачынаючы ад Полацкага Княства, затрымаўся над вялікім ганлёвым горадам Ноўгарадам ды насьветліў эпоху славы й магутнасьці Вялікага Княства Літоўскага. На працягу прыблізна двух з палавінаю стагодзьдзяў Масква імкнулася заваяваць Беларусь, ужываючы дзеля гэтае мэты розныя спосабы як палітычныя, гэтак і рэлігійныя, што здолела наапошку дасягнуць. Хоць Беларусь знаходзілася ў няволі каля 150 год, аднак яна не загінула, як апрычоны народ, і 25 сакавіка 1918 году абвесьціла сваю дзяржаўную незалежнасьць. Рэфэрат быў выслуханы зь вялікай увагаю й быў высака ацэнены прысутнымі.

Рэфэрат у ангельскай мове прачытала сп-чня Галіна Кананчук, якая глыбака схарактарызавала пэрыяд паняволеньня Беларусі пад Расеяй, зазначыўшы, што народ бесьперапынку змагаўся за сваю незалежнасьць, пачаўшы ад паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Затым падрабней затрымалася на нашаніўскім пэрыядзе. Тут яна падчыркнула вялікую нацыянальную ролю, якую адыгралі беларускія паэты, розныя арганізацыі ды газэты „Наша Доля" й „Наша Ніва". Іхная дзейнасьць падрыхтавала добры грунт для абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Рэфэрат уважна выслухалі госьці, моладзь і ўсе прысутныя.

Затым сп-чня Галіна Кананчук прачытала праклямацыю губэрнатара штату Огаё Я. Родс і ад сэнатара Мэзэнбаў. Ад гораду Кліўленд прывітала асабіста жонка бурмістра сп-ня Пэрк ды прачытала ягоную праклямацыю пра абвешчаньне дня 25 сакавіка Беларускім Днём у горадзе. Пасьля гэтага яна ўручыла пахвальную грамату старшыні Аддзелу БАЗА Янку Раковічу ў знак прызнаньня й удзячнасьці за вялікую й ахвярную ягоную працу як сярод беларускае калёніі, гэтак і ў арганізацыі Рух Нацыянальнасьцяў у Кліўленьдзе. Консэльмэн гораду сп. Сьліва ў сваёй прамове прыгадаў памылкі амэрыканскага ўраду ў часе Другое сьветавае вайны й заклікаў цяпер больш актыўна апэляваць да амэрыканскага ўраду на карысьць незалежнасьці Беларусі. Ад кангрэсмэнкі Мэры Окар прывітала ейная прадстаўніца, паведаміўшы, што ўгодкі Дня Незалежнасьці кангрэсмэнка адзначыла ў Кангрэсавых Запісках („Кангрэшэнэл Рэкорд"). Ад чэскай калёніі прывітаў пачэску сп. Вацлаў Гымн. Ад Беларускіх Вэтэранаў вітаў ген. д-р Язэп Сажыч з Дэтройту. Ён падчыркнуў вялікае значаньне Акту 25 Сакавіка пасьля мінулае вайны на Беларусі, у Задзіночаных Нацыях ды сярод беларускай эміграцыі. Было прачытанае прывітаньне ад Галоўнай Управы БАЗА, ад Рады БНР і ад Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Чыкага. Наапошку сп. Янка Раковіч прадставіў астатніх гасьцей і кіраўнікоў беларускае кліўлендзкае калёніі.

У мастацкай праграме выступалі пераважна жанчыны, якія прыгожым выкананьнем народных песьняў захаплялі прысутных ды будзілі ў іх любасьць да роднага мастацтва й нацыянальных традыцыяў. Пад акампаньямант Колі Стрэчаня й маладое піяністкі Лены Лук'янчык вкступілі солё Іра Каляда-Сьмірноў, Оля Лукашэвіч дый Коля Стрэчань, дуэтам Тацьцяна Кананчук і Оля Лукашэвіч ды жаноцкі хор „Васількі" пад кіраўніцтвам новага дырыгента Колі Стрэчаня. Урачыстасьць закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля зачыненьня афіцыйнай часткі адбылося сьціплае прыняцьцё для ўсіх прысутных. Сьвяткаваньне сёлетніх Сакавіковых Угодкаў у Кліўленьдзе наагул прайшло вельмі ўдала як унутры беларускай калёніі, гэтак і навонкі. Пару дзён раней быў зьмешчаны артыкул пра беларускія нацыянальныя ўгодкі ў „Кліўлэнд Прэс", а ў нядзелю 27 сакавіка быў вывешаны, побач з амэрыканскім, беларускі нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг над гарадзкой ратушай.

**К.**

## ВЫСТАУКА МАЛЮНКАУ ГАЛІНЫ РУСАК



Paintings by

**HALINA RUSAK**

**April 23 – May 30, 1977**

**Reception: Sunday, April 24, 5-6 p.m.**

**New Jersey State Museum Auditorium Galleries**

**205 West State Street, Trenton 08625**

## 25 САКАВІКА Ў САЎТ РЫВЭРЫ

24 сакавіка 1977 г. беларуская дэлегацыя з Саўт Рывэру на чале із сп. Віктарам Мяжэвічам і дэлегацыя зь Нью Брансьвіку былі на ўрачыстым праклямаваньні губэрнатарам Брэнданам Бэрнам дня Беларускае Незалежнасьці ў штаце Нью Джэрзі. Паводля ўсталяванае традыцыі, беларуская дэлегацыя стараецца кажны раз перадаць губэрнатару адмысловы падарунак, што адлюстроўвае беларускае жыцьцё. Сёлета гэткім падарункам была прыгожа выкананая талерка, зробленая з нагоды 200-годзьдзя Незалежнасьці Амэрыкі ў спалучэньні з Актам 25-га Сакавіка.

У сыботу 26 сакавіка ўрачыста быў узьняты беларускі нацыянальны сьцяг перад гарадзкою ўраваю Саўт Рывэру, пасьля чаго мэр гораду Чарльз Маніна ўручыў дэлегацыі праклямацыю дня Беларускае Незалежнасьці.

У нядзелю 27 сакавіка а гадзіне 10-й у раньні адбылася сьв. літургія й малебен за Беларускі Народ у царкве імя сьв. Еўфрасіньні Полацкае, якія адслужыў а. архімандрыт Язэп (Строк) у суслужэньні з а. пратадыяканам Алегам Махнюком. Папаўдні ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру адбылася ўрачыстая акадэмія.

Сёлета заля была асабліва пасьвяточнаму ўдэкараваная, бо якраз тут адбывалася мастацкая выстаўка. Усё гэта, спалучанае зь гістарчыным днём, ствярала ўрачысты настрой сярод усіх прысутных на сьвяткаваньні.

Акадэмію адчыніў старшыня сьвяткавальнага камітэту інж. Міхась Бахар. Сяброўкі танцавальнага гуртка „Лянок" у прыгожай нацыянальнай вопратцы прасьпявалі амэрыканскі нацыянальны гімн пад акампаніямант Колі Бахара на піяніне. Пасьля гэтага інж. М. Бахар сказаў уступнае слова на тэму дня ў ангельскай мове. Ён-жа й праводзіў усю акадэмію з дапамогаю Аляксандра Орсы.

Рэфэрат у ангельскай мове падрыхтавала й прачытала Леаніла Цярпіцкая, у беларускай мове — Міхась Сенька. Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць памерлых летась дзеячоў, што зрабілі вялікі ўплыў на беларускае палітычнае, царкоўнае й культурнае жыцьцё: праф. Радаслава Астроўскага, б. прэзыдэнта Беларускае Цэнтральнае Рады, а. пратапр. Мікалая Лапіцкага ды опэрнага сьпевака й хормайстра Вячаслава Селях-Качанскага. Пасьля гэтага мэр Саўт Рывэру Чарльз Маніна выступіў з прамоваю, на заканчэньне якое прачытаў сваю праклямацыю дня Беларускае Незалежнасьці ў Саўт Рывэры. Наступна былі прачытаныя праклямацыі губэрнатараў штатаў Нью Джэрзі й Пэнсыльвацыя. Таксама былі прачытаныя прывітаньні ад сэнатара Кліфорда Кейса, кангрэсмэна Франка Томсана, мясцовых каўнсыльмэнаў ды ад шмат якіх беларускіх арганізацыяў Амэрыкі, Канады, Ангельшчыны й Заходняе Нямеччыны.

З прывітальным словам выступіў ведамы прыяцель Беларусаў, адміністратар ньюджэрзійскага штатавага Цэнтру Мастацтваў Фрэдэрык Вэк.

Ад іншанацыянальных групаў выступалі: др. Іван Дочэў — ад Баўгараў, сп. сп. Юліюс Бэлсо й Лаёс Нэмэз — ад Мадзяраў, сп. Мірон Леськіў — ад Украінцаў, праф. Даўмантс Газнэр — ад Латышоў.

У мастацкай частцы праграмы з глыбокім пачуцьцём прадэклямавала паэму Янкі Купалы „Курган" сп-ня Жэня Цярпіцкая. Танцавальны гурток „Лянок" пад кіраўніцтвам сп-ні Вілы Саўчанкі выканаў два народныя танцы: „Беларуская полька" й „Мяцеліца". Вучні мясцовае сыботняе школы прадэклямавалі шэраг вершаў.

Акадэмія закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**Віталь Цярпіцкі**

## СЬВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў МЭЛЬБУРНЕ

Пачаліся яны ў сыботу 26 сакавіка сёлета гадзіннай перадачай на шматнацыянальнай радыястанцыі 3ZZ. На праграму зладжыліся кароткія рэфэраты пра Акт 25 сакавіка 1918 году ў беларускай (А. Калодка) і ангельскай (Аля Папярэчная) мовах, музыка з кружэлак ды кароткія навіны з жыцьця на Бацькаўшчыне й эміграцыі, а таксама паэма Янкі Купалы „Курган". Перадачу вялі Ліля Яцкевіч і Аля Папярэчная.

У нядзелю 27 сакавіка сёлета быў адслужаны пры вялікай колькасьці вернікаў Беларусаў а. прат. А. Кулакоўскім урачысты Малебен у царкве БАПЦ у Мэльбурне; падчас Малебену а. прат. А. Кулакоўскі сказаў прыгожую прынагодную казань.

Пасьля паўдня ў Беларускім Доме была наладжаная Беларускім Цэнтральным Камітэтам у Вікторыі ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 59-ым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Адчыняючы акадэмію, старшыня Камітэту сп-ня Ліля Яцкевіч успомніла, між іншым, пра нашыя дасягненьні, як наладжаньне Камітэтам Першае Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў Мэльбурне ды запачаткаваньне год таму нашых рэгулярных радыёвых перадачаў, ды заклікала да яшчэ больш інтэнсыўнай працы над пашырэньнем інфармацыяў сярод чужынцаў, галоўна Аўстралійцаў аб Беларусі, аб ейнай мінуўшчыне й сучаснасьці.

Далей яна прачытала прысланыя прывітаньні ад Старшыні Рады БНР В. Жук-Грышкевіча, Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Аб'еднаньня Беларусаў у Новай Паўдзённай Валіі, Беларускага Вызвольнага Фронту, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й ад Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня.

Былі прачытаныя два рэфэраты, прысьвечаныя ўгодкам. Вельмі цікавы ды арыгінальны, памастацку апрацаваны рэфэрат у беларускай мове прачытаў сп. А. Кадняк. Рэфэрат выклікаў буру заслужаных воплескаў. У ангельскай мове кароткі, але зьмястоўны рэфэрат прачытала сп-ня Надзя Груша.

Перад пачаткам мастацкай часткі сп-ва В. і Гр. Шэйпакі зложылі ад імя Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі падзяку сп-ням Лілі Яцкевіч, Алі Папярэчнай і Надзі Грушы за іхную гадавую працу ў беларускай сэкцыі радыя 3ZZ ды ўручылі ім вянкі кветак.

У мастацкай частцы былі, як звычайна, вельмі добрыя выступленьні тутэйшага мяшанага хору пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча, солё сп-ні Надзі Грушы й дэклямацыі сп. А. Кадняка, сп-ні Веры Шэйпак і Аўгена Грушы. З магнітафоннай стужкі былі праслуханыя дэклямацыі „Казкі аб песьні" й „Паўстань" Янкі Купалы.

Перад закрыцьцём акадэміі сп. М. Нікан паінфармаваў прысутных аб Тыдні Паняволеных Народаў, які адбудзецца ў Мэльбурне ў ліпені сёлета ды аб выстаўцы ў гэтым-жа часе. Таму што Беларусы прымуць у ёй удзел, сп. М. Нікан заклікаў прысутных аказаць Беларускаму Цэнтральнаму Камітэту ўсебаковую дапамогу.

Сяброўскі вечар пасьля афіцыйнай часткі, як заўсёды, быў вельмі ўдалы й трываў амаль да поўначы. У сувязі з тым, што ведамыя на мэльбурнскім груньце сп-ва Аўген і Надзя Грушы выяжджаюць у красавіку сёлета на некалькі месяцаў у Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, прысутныя на сяброўскім вечары жадалі ім шчасьлівага падарожжа ды добра й прыемна правесьці заслужаны водпуск.

**А. К-а**

## БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

Бурмістр гораду Лёс Анджэлес Том Брэдлі абвесьціў дзень 25 сакавіка сёлета „Беларускім Днём" прыгожай афіцыйнай праклямацыяй, прысьвечанай сёлетнім 59-ым угодкам абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 сакавіка 1918 году. У праклямацыі сказана, што яна выдаецца таму, што ў гэты гістарычны дзень споўніліся найвышэйшыя асьпірацыі беларускага народу й што ўгодкі гэтай падзеі сьвяткуюцца ўсімі Беларусамі, як сымбаль дынамічнай духовай сілы мужнага беларускага народу, якая надзейна верне яму ягоную нацыянальную незалежнасьць.

У нядзелю 27 сакавіка ў залі Украінскай Каталіцкай Царквы ў Галівудзе адбылася ўрачыстая праграма з нагоды 59-ых угодкаў 25 Сакавіка, зладжаная ад імя мясцовага Аддзелу БАЗА, Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, а так-жа прадстаўніка БККА.

Пачаў праграму сп. Часлаў Найдзюк — прадстаўнік БККА, — перадаючы вядзеньне праграмы сп. Пятру Ерміну. Быў адыграны амэрыканскі гімн. Хвілінаю цішыні была ўшанаваная памяць памерлых змагароў за незалежнасьць Беларусі. Была праслуханая малітва-песьня на словы Натальлі Арсеньневай „Магутны Божа". Праклямацыю бурмістра Лёс Анджэлесу прачытала Карнэля Найдзюк. Прывітаньні пабеларуску прачытала сп-ня Каця Вініцкая. Першай была прачытаная прывітальная тэлеграма ад Галоўнай Управы БАЗА ў Нью Ёрку, тады наступныя прывітаньні: ад ЗБВБ у Лёндане, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі ў Нью Ёрку, Прыхільнікаў БЦР, Прадстаўніка БККА на штат Калярадо й ад д-ра Язэпа Сажыча.

Рэфэрат на тэму „Змаганьне за вольную Беларусь" прачытаў сп. Ч. Найдзюк, а тэкст Акту 25 Сакавіка паангельску прачытала Карнэля Найдзюк.

На пачатку мастацкай часткі праграмы верш Міхася Машары „25-га Сакавіка" чула прадэклямавала сп-ня Вера Блоцкая-Вуіч. Верш „Свайму Народу" Янкі Купалы памастацку прадэклямавала сп-ня Каця Вініцкая. Верш Ларысы Геніюш „З чужыны" й „Мой родны кут", урывак з паэмы Якуба Коласа „Новая зямля" вельмі прыгожа прадэклямавала сп-ня Вера Блоцкая-Вуіч. „Аб сьвяточным Дні Сакавіковым" прачытаў свой верш сп. Пётра Ермін, закончыўшы яго словамі: „Але ніхто не адыме вольнай думкі". Верш „Хто ты гэткі" Янкі Купалы сказаў вучань 5-ай клясы Віктар Найдзюк. 13-цігадовая Соня Вуіч адыйграла на акардыёне „Румынскую рапсодыю" й „Лявоніху" зь „Юрачкам". Сп. Я. Арцюх зрабіў заклік да падтрыманьня Беларускага Фэстывалю ў Нью Джэрзі, а сп. Ч. Найдзюк заахвочваў прысутных да ахвяраў на беларускае выдавецтва. Праграма закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

У часе супольнага пачастунку было ня мала эмоцыяў і надзеяў на гэткія-ж наступныя спатканьні.

**Н.**

### ПАПРАЎКА

У подпісе пад фотаздымкам „РЫГОР ШЫРМА" на 5-ай бачыне ў № 238 „Беларуса" за люты 1977, у пераліку прысутных на фотаздымку памылкова надрукавана „Мікола Ільяшэвіч", заміж, як павінна быць, „Хведар Ільяшэвіч", за што перапрашаем нашых чытачоў.

**Рэдакцыя „Беларуса"**

# СІЛА І СЛАБАСЬЦЬ САВЕЦКАГА ДЫСЫДЭНЦТВА

**Увага ад перакладніка:** Аляксандар Гідоні, народжаны ад бацькі Італьянца й маткі Расейкі ў Ленінградзе ў 1936 г., ёсьць выдатным паэтам, літаратуразедам і перадусім дысыдэнтам, што адседзеў 4 гады ў канцлягеры за падтрымку Вугорскага паўстаньня. Ад двух гадоў жыве ў Тароньце, ёсьць адным з рэдактараў „Современника". Аляксандар Гідоні выдатна разумее гісторыю паняволеных народаў Савецкага Саюзу, адкрыта падтрымоўвае іх у іхным змаганьні за вызваленьне. Ніжэй зьмешчаны ягоны артыкул напісаны адмыслова для „Беларуса".

**К. Акула**

**

Узорная краіна таталітарызму — СССР сутыкнулася цяпер із зьявай, пра каторую гавораць ува ўсім сьвеце, — із фактам аслабленьня **татальнай** сілы рэжыму, прынамся ў сфэры ідэялёгіі. Узьнікненьне савецкага дысыдэнцтва абазначала фармаваньне ў Савецкім Саюзе легальнай апазыцыі камуністычнаму ўраду — апазыцыі, якая яшчэ занадта слабая, каб стацца паралельнай, якая канкуравала-б з КПСС, але якая даволі сьмелая, каб кідаць адкрыты выклік савецкай дыктатуры. Гэты новы фактар нутранога жыцьця Савецкага Саюзу мае аграмаднае міжнароднае значаньне, калі браць на ўвагу ролю СССР у сучасным сьвеце.

Калісьці, у пачатку XX-га ст., лідар лібэральнай канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі Расеі Мілюкоў, што крытыкаваў царскі ўрад, заявіў, аднак, у ваднім із сваіх інтэрвію: „Мы — расейскія лібэралы, не зьяўляемся апазыцыяй **супраць яго Вялікасьці, мы — апазыцыя Яго Вялікасьці!**" І цяпер, калі ўлічыць двузначнае палажэньне савецкіх дысыдэнтаў у якасьці легальных апазыцыянэраў сыстэмы ўлады, што ня цэрпіць ніякай легальнай апазыцыі, **паўстае пытаньне:** як-жа разглядаць дысыдэнцтва ў СССР? Ці гэта ёсьць апазыцыя **супраць савецкага рэжыму**, ці гэта адно апазыцыя **савецкага рэжыму?** Адказ на гэтае пытаньне ня можа быць адназначным.

Бо савецкае дысыдэнцтва ёсьць неаднароднае сваім цяперашнім складам дый з прычыны свайго разьвіцьця ў часе. Унутры яго ёсьць свае асобныя групоўкі й розныя пакаленьні.

Тое, што звычайна называюць, „дэмакратычным рухам у СССР", зарадзілася ў 50-х гадох пасьля сьмерці Сталіна й наступленьня гэтак званай хрушчоўскай „длегі". Неабходна адразу падчыркнуць (таму, што на Захадзе існуе непраўмерная ідэялізацыя асобы й палітыкі Хрушчова), што „адлега" гэная ніякім чынам не зьмяніла асновы савецкага рэжыму. Сам Хрушчоў быў вульгарным і поўпісьменным дыктатарам, але ў сваёй палітычнай гульні ён зрабіў вызначаную стаўку на антысталінізм, што аб'ектыўна прывяло да ведамага зьмякчэньня жорсткасьці савецкага ладу, ведамага із сталінскіх часоў. Можна сказаць, што пры Хрушчову ня выкаранілі крыніцы цярпеньняў для народаў, якія жывуць у Савецкім Саюзе, але колькасная сума гэных цярпеньняў была зьменшаная. Як гаворыцца, і за гэта дзякуй.

Магу спаслацца на асабістае сьветчаньне. Я быў палітычным вязьнем якраз хрушчоўскай эпохі. Арыштавалі мяне за маё падтрыманьне вугорскай рэвалюцыі 1956 году і крытыку антыдэмакратызму савецкае сыстэмы. Я адбыў чатыры гады ў савецкіх вязьніцах і канцлягерах у той час, калі Хрушчоў крычаў на ўвесь сьвет, што ў Савецкім Саюзе няма **ніводнага** палітычнага вязьня. Зразумела, пры Хрушчову лік палітвязьняў мерыўся тысячамі, а не міліёнамі, як пры Сталіне, але яны ўсё-ж **былі**. Цікава, што калі я мае сябры палітвязьні пыталіся нашых вартаўнікоў, хто-ж мы такія, паколькі мы не былі **крымінальнымі** злачынцамі, а Хрушчоў заявіў, што палітвязьняў у СССР няма, дык нам туманна адказвалі, што мы — „часова ізаляваныя". Чыста савецкая гульня ў тэрміналёгічную падтасоўку паняцьцяў і, як рэзультат — хвальшаваньне запраўднасьці!

У ўмовах хрушчоўскай улады першыя апазыцыйныя выступленьні супраць рэжыму (галоўна між студэнтаў) былі размалёваны яшчэ ў даволі „ружовыя" й навет „чырвоныя" адцені. Рэжым крытыкавалі з пазыцыяў тытаізму або адроджанага „чыстага" ленінізму, марксістоўкага „рэвізіянізму" або сацыял-дэмакратызму. У нацыянальных рэспубліках (Украіна, Беларусь, балтыйскія й каўкаскія рэспублікі) розна ўзмоцніліся тэндэнцыі нацыянальнае самасьведамасьці й патрабаваньня незалежнасьці. У злучэньні з фактарам уплыву на гэты рух здарэньняў 1956-га году ў Вугоршчыне й Польшчы фармаваньне першых апазыцыйных групаў і падпольных арганізацыяў было вельмі заўважнай прыкметай глыбокага неспакою ў савецкім грамадзтве. Характэрна таксама, што хоць ступень ідэялягічнага разрыву з камунізмам, як сыстэмай думаньня, была яшчэ ў васяродку першых дысыдэнтаў пасьлясталінскага часу невялікая, затое іх палітычны радыкалізм быў куды мацнейшы, чымся ў шматлікіх дысыдэнтаў 70-х гадоў. Калі вялікая часьць цяперашніх дысыдэнтаў у Маскве й Ленінградзе спадзяецца „эвалюцыі савецкага рэжыму ў дэмакратычным кірунку", дык дысыдэнты 50-х гадоў марылі пра антыкамуністычную рэвалюцыю, наводля той, што зьдзейсьнілася ў Вугоршчыне.

Гэтта ня месца дробязна характарызаваць вельмі цікавую праблему параўнаньня поглядаў і дзеяньняў розных пакаленьняў савецкіх дысыдэнтаў. Больш грунтоўна я пазволіў сабе разгледзіць гэтае пытаньне ў сваім артыкуле пра магчымасьць антыкамуністычнай рэвалюцыі ў СССР, што нядаўна зьявіўся у выдаваным у Тароньце расейскім часапісе „Современник" у сувязі з дваццацігодзьдзем вугорскай народнай рэвалюцыі 1956-га году.

У 60-х і 70-х гадох далейшы рост дысыдэнцкага руху быў зьвязаны з такімі палітычнымі здарэньнямі ўнутры й навонкі Савецкага Саюзу, як упадак Хрушчова, нашумелы палітычны працэс пісьменьнікаў Сіняўскага й Даніэля, савецка-кітайскі канфлікт, шасьцідзённая вайна Ізраэля з арабскімі краінамі, савецкая інтэрвэнцыя ў Чэхаславаччыне, высылка Салжаніцына й дзейнасьць акадэміка Сахарава, палітыка дэтанту й узмоцнены неспакой у краінах Усходняе Эўропы, таксама які ў нацыянальных рэспубліках унутры СССР. Пад уплывам гэтых і шматлікіх іншых, больш прыватных фактараў фармавалася цяперашняе пакаленьне савецкіх дысыдэнтаў, зь якіх некаторыя (прыкладам Амальрык і Букоўскі, Плюшч і Валянтын Мароз, Павал Ліцьвінаў і Адвард Кузьняцоў) атрымалі сусьветную вядомасьць.

Між сучасных дысыдэнтаў у СССР можна ўмоўна вызначыць такія кірункі, як агульнадэмакратычны й празахадні (акадэмік Сахараў і яго прыхільнікі), рэлігійна-нацыянальныя й дэмакратычны (Салжаніцын і ягоныя прыхільнікі), нэомарксісцкі (браты Мядзьведзевы й іхныя пасьлядоўнікі) ды нэаславянафільскі. Апроч гэтага існуюць самастойныя рухі на Украіне, у Беларусі, у Лятуве, Латвіі, Эстоніі, Грузіі й Арменіі, накіраваныя для захоўваньня нацыянальных спадзяваньняў гэтых краёў, паняволеных расейска-савецкім каляніялізмам; існуе рух Крымскіх Татараў і Немцаў, што былі жорстка рэпрэсіяваныя за часоў Сталіна, дый наапошку вельмі ўплывовым ёсьць жыдоўскі рух, які зьмыкаецца зь сіянізмам, гэтак і разьліты часта ў агульнадысыдэнцкай плыні.

У сувязі з гэтым неабходна падчыркнуць, што роля жыдоўскага пытаньня ў СССР на Захадзе разумеецца ні ўва ўсім правільна. Некаторыя схільныя зводзіць да гэтае праблемы ледзь ня ўсю нацыянальную праблематыку ў Савецкім Саюзе. Між тым, хоць няма сумлеву, што антысэмітызм у СССР зьяўляецца неафіцыяльнай палітыкай афіцыяльных колаў, ня трэба думаць, што толькі адны Жыды цэрпяць ад самавольства ўладаў. Больш таго, дзякуючы таму, што існуе Ізраэль ды зьявіліся магчымасьці выезду з краіны, ды дзякуючы відавочнай падтрымцы шырокага грамадзтва на Захадзе, Жыды апынуліся да ведамай ступені ў больш выйгранай пазыцыі, чымся іншыя нацыяналь-

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**

**СЬВЯТОЙ**  **ПАМЯЦІ**

**УЛАДЗІМЕР ЛІТВІНКА**

**адыйшоў на вечны супачынак 10 студзеня 1977 году ў Кліўленьдзе на 45-ым годзе жыцьця, пра што ў глыбокай жалобе паведамляюць жонка Інна, дзеці Ўладзімер і Таццяна, брат Аляксандар і сястра Параска.**

# УЛАДЗІМЕР ЛІТВІНКА



Пасьля раптоўнага атаку сэрца адыйшоў ад нас 10 студзеня 1977 году на вечны супачынак сьв. пам. Уладзімер Літвінка. Нарадзіўся ён на Бацькаўшчыне ў вёсцы Морач на Палесьсі, будучы наймалодшым зь вялікай сям'і семярых. Калі было яму два гады, памерла ягоная маці Таццяна, таму ўзгадоўваўся пад наглядам бацькі Адама ды сярод старэйшых братоў і сёстраў.

У Нямеччыне жыў ён у беларускім лягеры для перамешчаных асобаў у Бакнангу. Прыехаўшы ў 1951 годзе ў Кліўленд, адразу далучыўся да беларускіх арганізацыяў. Быў вельмі актыўным у спорце: іграў у футбольнай і валейбольнай дружынах. Належаў да многіх беларускіх арганізацыяў і займаў кіраўнічыя становішчы, як у Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, Аддзеле БАЗА, Парахвіяльнай Радзе. У 1962 годзе ажаніўся зь Іннай і меў двое дзяцей — Валодзю й Таню. Быў вельмі добрым і шчырым мужам і бацькам, моцна рупіўся пра сям'ю й сваю гаспадарку.

Вялікія здольнасьці й моцнае зацікаўленьне меў Уладзімер Літвінка да музыкі й быў таленавітым акардыяністым, што пераняў ён ад свайго бацькі. З самага пачатку належаў ён да царкоўнага й сьвецкага хораў, быў кіраўніком беларускае аркестры „Палесьсе". У канцы 1975 году пераняў кіраўніцтва царкоўным хорам парахвіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці. Працаваў шчыра й з энтузіязмам, не шкадуючы свайго часу. Перапісаў і ўпарадкаваў шмат нотаў, часта рабіў сьпеўкі, моцна рупіўся пра належнае выкананьне сьпеваў і гэтым паставіў царкоўны хор на высокі ўзровень, а таксама й хор сьвецкі. Із сваім акардыёнам ён весяліў беларускай народнай музыкай і танцамі падчас сьвяткаваньняў розных угодкаў, на імпрэзах, вечарынах, хрэсьбінах, вясельлях, зборышчах.

Ягоная передчасная сьмерць — гэта вялікая страта для ягонае жонкі й дзяцей, сястры й брата, а беларуская калёнія ў Кліўленьдзе страціла ў ягонай асобе выдатнага дырыгента й беларускага музыку.

Хай лёгкай будзе яму амэрыканская зямля!

**К. К-а**

# СЬВЯТА 25 САКАВІКА У МАНЧЭСТАРЫ

У нядзелю 27 сакавіка Беларусы Манчэстару й аколіцаў пры вялікім удзеле Беларусаў Брадфарду (Ангельшчына) ўрачыста адзначылі 59-ыя ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Гэтага дня, пасьля звычайнай Божай Службы ў парахвіяльнай царкве БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці, а. пратаярэй Янка Абабурка адправіў адмысловы Малебен ды сказаў глыбока патрыятычнае казаньне на тэму дня.

Пасьля гэтага ў царкоўнай залі адбыўся ўрачысты сход, які адчыніў сябра Рады БНР Хведар Кажаневіч ды прачытаў прывітаньні прысланыя з гэтай нагоды Ўправе Аддзелу ЗБВБ: І. Рады Беларускае Народнае Рэспублікі (Прэзыдэнт Д-р В. Жук-Грышкевіч); 2. Галоўнае Ўправы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (Старшыня Янка Міхалюк); 3. Сэктару Рады Беларускае Народнае Рйспублікі ў Аўстраліі (Старшыня Ўправы Сэктару А. Каранеўская, за сакратара С. Нарушэвіч); 4. Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, Аўстралія (Старшыня Е. Яцкевіч, Сакратар М. Нікан); 5. Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня (Сакратар В. Шчэцька); 6. Беларускага Вызвольнага Фронту (Начальнік Галоўнага Штабу Д. Касмовіч). Прывітаньні, у якіх выказвалася вера ў ваднаўленьне незалежнай беларускай дзржавы, былі прынятыя гучнымі воплескамі.

Рэфэрат пра 59-ыя ўгодкі абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі прачытаў сакратар Аддзелу ЗБВБ М. Яськевіч. Пасьля рэфэрату была праведзеная зборка грошай на Фонд Рады БНР. Урачыстасьць закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля закрыцьця афіцыйнай часткі сьвяткаваньня адбылося сьціплае прыняцьцё для ўдзельнікаў. Пасьля гэтага прысутныя пераехалі ў Беларускі Клюб, дзе ў мілай сяброўскай атмасфэры быў праведзены час. За ўдалае зарганізаваньне ўрачыстасьці належыцца шчырая падзяка сп. Хведару Кажаневічу, а таксама Беларусам Брадфарду за іхны ўдзел у сьвяткаваньні.

**М. Стаўпіскі**

# НА СЬВЕЖУЮ МАГІЛУ ЗАМІЖ КВЕТАК

Зь вялікім сумам паведамляем, што 1-га лютага сёлета адыйшоў ад нас на вечны супачынак наш Дарагі Сябра Антановіч Антон у веку 62 гады, родам із Случчыны.

Адыйшоў на вечны супачынак пасьля моцна заслужанага жыцьця. Працавіты й здольны, як і бальшыня Беларусаў, пасьля жабрацкай калгаснай маладосьці, апыніўшыся ў вольнай Францыі, імкнуўся жыць палюдзку. За заробленыя грошы адразу купіў кавалак зямлі (адкос рову) і сам, бязь нічыей помачы, у вольныя гадзіны ад заработнай працы, пабудаваў дом, які ўляпшаў да апошняга дня свайго жыцьця. Адпачываў ловячы рыбу ці зьбіраючы грыбы, якія марынаваў, сушыў ды абдзяляў імі суродзічаў ці суседзяў, і гэта заўсёды з жартамі й усьмешкай.

Пакінуў хвабрыку, маючы 60 год, прайшоў дзьве цяжкія апэрацыі ў двух апошніх гадох. Памёр у шпіталі ў Ле Крэзо, дзе й пахаваны на магільніку Сэнт Ожэн пасьля пахароннага малебену, адслужанага польскім ксяндзом, у прысутнасьці ўсіх суродзічаў, прыяцеляў і знаёмых розных нацыянальнасьцяў.

Нябожчык пакінуў у горкіх сьлязох і вялікім суме дачку Анік і ўсіх сяброў у Ле Крэзо — Монтана — Монсо.

Няхай вольная француская зямля будзе Табе, Дарагі Антон, слуцкім пухам! За добрае зарганізаваньне хаўтурнага абраду вялікая падзяка належыцца сп-ру Міхасю Булыгу.

**Сябра**

**Заміж кветак на магілу сьв. пам. Філарэта Родзькі Сп-вы Арцюхі, Вініцкія, Канвэкі, Найдзюкі й Сп-ня Ф. Сак зь Лёс Анджэлесу, Каліфорнія, складаюць на Выдавецкі Фонд „Беларуса" $50.00.**

**Заміж вянка на сьвежую магілу Сьв. Пам. Філарэта Родзькі складае $ 25. 00 на Выдавецкі Фонд газэты „Беларус" сям'я Кляўдзіі Каляда й Іры Каляда-Сьмірноў.**

# МЫ СТРАЦІЛІ ЗАПРАЎДНАГА ПРЫЯЦЕЛЯ БЕЛАРУСАЎ



Толькі нядаўна дайшла да нас сумная вестка, што 30 жніўня 1976 г. памёр у Атаве Др. Уладзімер Кэй (Кісэлэўскі) — сын украінскай сэнатаркі Кісэлэўскай калішняга польскага сэнату. Быў жанаты із Спадарыняй Грэйс Э. Нів зь Лёндану ў Ангельшчыне і меў зь ёй дачку Алёну-Альжбету.

Сьвятой Памяці Др. Уладзімер Кэй радзіўся у 1896 г. у Каламыі ў Галіцыі. У 1924 г. скончыў унівэрсытэт у Вене з дыплёмам доктара філязофіі. У 1925 г. прыехаў у Канаду й на якісь час затрымаўся ў Таронта, але ўжо ў 1928 г. пераехаў у Эдмонтон, дзе быў рэдактарам украінскага тыднёвіка „Західні Вісти".

Дзесь у 20-х гадох спатыкаўся на Амэрыканскім кантынэнце зь Беларусамі і ,між іншымі, зь першым прэм'ерам Беларускай Народнай Рэспублікі Язэпам Варонкам і былым міністрам БНР Чарапуком — Змагаром, якія тады ( і да канца жыцьця) прабывалі ў Чыкага. Др. Кэй расказваў пра спатканьні зь імі аўтару гэтых радкоў у 1956 г., гаварыў, што быў зь імі ў сяброўскіх адносінах і паказваў здымку з Чыкага, на якой быў ён сам разам з нашымі БНР-аўскмі дзеячамі.

У 1931 г. Др. Кэй выехаў у Ангельшчыну, дзе прадаўжаў сваю навуку на аддзеле славістыкі й Усходня-Эўрапейскіх Студыяў Лёнданскага Ўнівэрсытэту й адначасна быў дырэктарам украінскага прэсавага бюра. У Канаду вярнуўся ў 1941 г. і пачаў працаваць у „Дэпартмэнт оф Нашнал Уор Сэрвісыс", а пазьней у Дэпартаманьце Дзяржаўнага Сакратара, у Аддзеле Грамадзянства. Ягоным заданьнем было ўтрымліваньне лучнасьці паміж этнічнымі групамі й урадам. Тут Др. Кэй праявіў сябе як прыязны гэтым групам, ды здольны разумець іхнія праблемы й прадстаўляць іх аб'ектыўна й кампэтэнтна Канадыйскаму ўраду. Вось чаму цанілі Яго й шанавалі ўсе этнічныя групы, як свайго прадстаўніка.

Адначасна Др. Кэй быў прафэсарам Атаўскага Унівэрсытэту, як спэцыялісты ў справах іміграцыі. Ён шмат дапамог таксама ў арганізацыі Аддзелу Славянскіх Студыяў на гэтым Унівэрсытэце. У 1948 г. Др. Кэй быў выбраны Прэзыдэнтам Амэрыканскага Згуртаваньня Выкладчыкаў славянскіх і іншых моваў Усходняй Эўропы, у 1954 г. стаўся першым Прэзыдэнтам Славістых Канады, а ў 1967 г. быў выбраны Ганаровым Прэзыдэнтам гэтага згуртаваньня.

Беларусы, якім давялося мець дычыненьне з Атаўскім Унівэрсытэтам, знаходзілі ў васобе Др-а Кэя ня толькі прафэсара, але й шчырага прыяцеля й дарадніка. Таксама на славянскіх і іншых канфэрэнцыях у Канадзе Беларусы спатыкалі ў васобе Д-ра Кэя прыяцеля, а часта й інтэрпрэтатара беларускіх праблемаў перад урадавымі дзейнікамі й прыватнымі асобамі, што гэтых праблемаў не разумелі. Дапамога Д-ра Кэя — кампэтэнтнага ў беларускіх справах была вельмі важнай, калі ўзяць пад увагу, што ў Канадзе й ЗША Беларусы й іхныя справы навет у 50-ых гадох былі чымсь новым і незразумелым.

Др. Кэй быў аўтарам шматлікіх навуковых працаў улучна з манаграфіямі ды апрацаваў каля 400 дакладаў і рэфаратаў у пытаньні этнічных групаў Канады, а між імі й **„Канэдыенс оф Белорусіян Орыджын"**, брашура з „Рэвью дэ Л'Юнівэрсытэ д'Оттава", 1960. Брашура Д-ра Кэя разыйшлася па ўсей Канадзе.

Хай-жа будзе Яму лёгкай Канадыйская Зямля й добрая й доўгая памяць аб Ім сярод Канадыйцаў.

**В. Жук-Грышкевіч**

# МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

## У ПАЛАЦЕ РЭПРЭЗЭНТАНТАЎ ЗША



**Зьлева направа: Капэлян Эдвард Г. Лач, Пратапрасьвіцер а. Сьвятаслаў Коўш, Сьпікер Палаты Рэпрэзэнтантаў Томас О'Ніл і Кангрэсмэн Джозэп П. Адаба перад малітвай.**

Настаяцель беларускай царквы імя Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл у Нью Ёрку, Пратапрасьвіцер а. Сьвятаслаў Коўш на 59-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі прачытаў у Палаце Рэпрэзэнтантаў Кангрэсу ЗША наступную малітву за Беларусь і Амэрыку:

O GOD ALMIGHTY! IN A DAY OF CREATION YOU GAVE TO HUMANKIND THE LIKELIHOOD OF YOURSELF. AMONG ALL SPIRITUAL TREASURES OF SUCH LIKELIHOOD, YOU GAVE US FREEDOM. FROM THE BEGINNING OF TIME, MEN AND WOMEN CHERISHED THIS PRECIOUS GIFT. FOR THE PEOPLE OF THIS UNITED STATES OF AMERICA, FREEDOM BECAME AN INSEPERABLE PART OF LIFE AS YOUR GREATEST BLESSING. KEEP IN YOUR GRACE OUR GREAT AMERICAN NATION AND OUR FREEDOM FOR ENDLESS TIME.

LOOK WITH THY GRACIOUS EYE ON MY BYELORUSSIAN PEOPLE AND LET THEM PERCEIVE THE WAY OF YOUR FEEDOM. LET COME TO PASS THE LONING OF BYELORUSSIAN PEOPLE TO BE PART OF THE FREE WORLD AND THEY WILL OPEN THE GATES OF THEIR CHURCHES, LOCKED TODAY BY GODLESS GOVERNMENT, AND THEY SHALL EXALT YOUR HOLY NAME. AMEN.

## 25 САКАВІКА У РЫЧМАНД ГІЛ

Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне Нью Ёрку ладзіла 59-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі 3-га красавіка. Сьвяткаваньне пачалося Божаю службаю й малебнам за Беларускі Народ у царкве сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл. Служылі а. пратапрасьвіцер Сьвятаслаў Коўш і а. пратадыякан Алег Махнюк.

Акадэмія адбылася ў залі Амэрыканска-Беларускага Грамадзкага Цэнтру. Пачалася амэрыканскім гімнам. Далей сп. В. Шчэцька, які вёў акадэмію, у сваім уступным слове падаў кароткую гісторыю вынікаў ідэі 25 Сакавіка.

Др. В. Кіпель прачытаў рэфэрат, падчыркнуўшы ў ім, што сяньняшняя завойстраная палітычная сытуацыя, дзякуючы наважнасьці Прэзыдэнта Картэра ў дачыненьні да людзікх правоў — у існасьці толькі частка тае палітычнае праграмы, ужыцьцёўленьня якое мусіла-б дамагацца Амэрыка. Задзіночаныя Штаты павінны былі-б актыўна **падтрымваць нацыянальна-палітычнае** змаганьне паняволеных народаў, бо толькі палітычная свабода народу гарантуе правы чалавека. Устаўныя граматы БНР, сказаў прамоўца, гарантавалі правы чалавека ўжо ў 1918 годзе, а „людзьмі звацца" — дэвіз Беларусаў з пачатку гэтага стагодзьдзя. І, як адзначыў дакладчык, пытаньне „правоў чалавека" без палітычна-нацыянальных правоў у дачыненьні да савецкае імпэрыі — гэта звужаньне самое праблемы.

Пасьля рэфэрату др. Кіпеля прамаўляў інж. І. Касяк. Тэмай ягонага выступленьня было Гэльсінскаўскае пагадненьне ды ўплыў яго на ход падзеяў у паняволеных Масквой народаў. Прамоўца падаў шмат прыкладаў звужаньня праблемы нацыянальных правоў народу да пытаньня дапамогі паасобным адзінкам. Маскве-ж тымчасам куды лягчэй даваць рады з паасобнымі льнымі рухамі ў сваёй арбіце. Сп. Касяк выказаў надзею, што Захад адзінкамі, як з нацыянальна-вызвозьменіць свой пагляд.

Далей былі паданыя прынагодныя паведамленьні й прывітаньні.

24-га сакавіка а. пратапрасьвіцер Коўш прачытаў у Кангрэсе ЗША малітву. З прамовай у Кангрэсе на тэму дня Незалежнасьці Беларусі выступіў кангрэсмэн Джозэф Адаба, з дапамогаю якога было наладжанае прачытаньне малітвы.

Беларускі Дзень быў абвешчаны губэрнатарамі штатаў Нью Джэрзі й Пэнсыльванія, а таксама мэрам гораду Саўт Рывэр.

На акадэміі аднадушна была прынятая рэзалюцыя, каб Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне зьвярнулася да ўраду ЗША ў справе консулярнага абмену з БССР, увядзеньня беларускае мовы ў перадачы „Голасу Амэрыкі" ды аблягчэньня ўмоваў эміграцыі Беларусаў у Амэрыку з БССР і Польшчы.

Афіцыйная частка закончылася адсьпяваньнем гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Супольны абед пачалі малітваю. Бяседа прайшла ў гутарках аб штадзённых справах ды палітычнай працы.

Падзякаю айцом, лектарам, сястрыцтву за абед ды ўсім прысутным закончылася сьвяткаваньне.

**В. Ш.**

## ЧЫМ ЗМУШАНЫЯ ЗАЙМАЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕНЬНІКІ

Газэта „Літаратура і Мастацтва" ў сваім першым сёлетнім нумары паведаміла, што на працягу летагняга году **„толькі шэфскіх выступленьняў пісьменьнікаў арганізавана па рэспубліцы звыш дзьвюх тысяч, у тым ліку ў сельскай мясцовасьці — 1.628".**

Як ведама, у Савецкім Саюзе, а ў ім Беларуская ССР ніякі вынятак, пісьменьніцкія арганізацыі змушаныя браць шэфствы над хвабрыкамі й заводамі, калгасамі й саўгасамі (г. зн. свайго роду партыйны нагляд і прысьпешваньне выканань-ня й перавыкананьня вытворчых плянаў) ды арганізаваць у іх г. зв. „шэфскія выступленьні". Практычным арганізаваньнем гэтых „шэфскіх выступленьняў" займаецца „Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюзу пісьменьнікаў Беларусі".

Яшчэ можна было-б цярпець, калі-б гэта была ўзапраўды „прапаганда мастацкай літаратуры" сярод шырокіх масаў чытачоў. Але, як добра ведама, пад гэтым хвальшывым назовам у прынцыпе карыснае справы вядзецца вылучна прапаганда партыйных палітычных мерапрыёмстваў, што з мастацкай літаратурай, як гэткай, ня маюць нічога супольнага.

Саюз пісьменьнікаў Беларусі налічвае сяньня каля 300 сваіх сяброў. Дык калі гэныя звыш дзьве тысячы „шэфскіх выступленьняў" падзяліць на 300, дык атрымаецца каля 7-мі выступленьняў для кажнага пісьменьніка, у бальшыні выпадкаў зьвязаных з выездамі зь іхнага месца жыхарства й працы. Калі-ж узяць яшчэ ўвагу й на тое, што кажнае гэткае „шэфскае выступленьне" праводзіць не адзін пісьменьнік, а цэлыя іхныя групы, дык колькасьць затрачаных кажным пісьменьнікам дзён вырасьце ў некалькі яшчэ разоў. А трэба ведаць, што, апрача гэных „шэфскіх", пісьменьнікам даводзіцца часта рабіць і ня шэфскія, але ўзноў-жа прапагандава-агітацыйнага характару выступленьні. Пасьля ўсяго гэтага можна зразумець, чаму вялікая колькасьць беларускіх пісьменьнікаў дае мізэрную колькасьць сваёй літаратурнай прадукцыі ў год, ня кажучы ўжо пра ейную якасьць. Гэткая незайздросная доля й працаўнікоў усіх іншых галінаў беларускага мастацтва.

**Ст. Ст.**

# АПОШНЯЕ СЛОВА ІВАНА МЕЛЕЖА

Ад самага пачатку 60-ых гадоў, калі ў першай частцы задуманых раманаў з цыклю „Палескае хронікі" — у рамане 1961 году „Людзі на балоце" зыркім блескам зазьзяў магутны пісьменьніцкі талент Івана Мележа, абуджаны подыхам новае пасьлясталінскае палітычнае атмасфэры, ад гэнага часу й да сяньняня спыняецца нахабнае прысабечваньне партыяй асобы пісьменьніка й ягонае творчасьці. Гэта выпрабаваная партыйная палітыка прысабечваньня ўсіх вялікіх нацыянальных каштоўнасьцяў народу, якіх схаваць або прамоўчыць — іншы варыянт партыйнае палітыкі — ніяк нельга, бо каштоўнасьці гэныя атрымалі агульнанародную вядомасьць .

Гэтак пасьлядоўна й сыстэматычна паступае Камуністычная партыя ў дачыненьні да найвялікшых паэтаў Беларусі Янкі Купалы й Якуба Коласа, гэтак падыходзіць яна да зьнявечанае ёю-ж творчасьці Кузьмы Чорнага дый наагул да нацыянальных дасягненьняў беларускага народу ў далёкай і бліжэйшай мінуўшчыні. Гэткі-ж мэтад выбрала наапошку партыя й у дачыненьні да Івана Мележа.

Сам-жа Іван Мележ на працягу апошніх 15-ёх год свайго жыцьця даволі моцна выяўляў сваю нацыянальную прынцыповасьць і змагаўся, як мог у дадзеных абставінах, супраць партыйнага ціску й патрабаваньняў паставіць ягоную творчасьць на надзённую службу для партыі. Апошнім перадсьмертным і таму найбольш важкім у гэтым змаганьні словам, якое не пакідае ўжо найменшага сумлеву ў тым, што Іван Мележ зыйшоў у магілу не як слуга партыі, а як верны й непахісны слуга роднага яму беларускага народу — гэта апублікаваны ў лютаўскім нумары часапісу „Маладосьць" сёлетняга году грунтоўна перапрацаваны й дапоўнены пісьменьнікам варыянт ягонае прамовы, якую ён сказаў на апошнім VII-ым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі летась у травені.

Каб належна зразумець увесь сэнс і глыбокую вымову гэнага новага варыянту Мележавай прамовы, неабходна вярнуцца да некаторых фактаў ягонага супраціву партыйнаму ціску на працягу апошніх 15-ёх гадоў.

Беларуская пісьменьніцкая й чытацкая грамадзкасьць каля 10-ёх год чакала зь нецярпеньнем зьяўленьня ў друку трэйцяе часткі „Палескае хронікі" Івана Мележа, якая спачатку, лежачы ў рукапісе, называлася ўжо ў 1966 годзе „За асакою бераг", а пачаўшы зьяўляцца ў друку ў часапісе „Полымя" летась насіла ўжо загаловак „Завеі, сьнежань".

Яшчэ ў 1966 годзе ў сваім інтэрвю ў травенскім нумары часапісу „Маладосьць", дадзеным літаратару Аляксею Гардзіцкаму, пра першую частку „Палескае хронікі" — раман „Людзі на балоце" пісьменьнік казаў: **„Людзі на балоце" ў такім выглядзе, у якім яны напісаны, маглі зьявіцца толькі пасьля тых пераменаў, што адбыліся пасьля XX зьезду партыі".**

Пра магчымасьці пісаньня наступнага, трэйцяга з парадку раману з цыклю „Палескай хронікі" даволі праліває сьвятла таксама згаданае інтэрвю. На запытаньне Аляксея Гардзіцкага, ці думае пісьменьнік працягваць сваю „Палескую хроніку", Іван Мележ у тым-жа інтэрвю адказаў: **„Думаю — і ня думаю. Многае перашкаджае ісьці далей. Пра цяжкасьці, якія замінаюць пісаць раман, гаварыць ня хочацца. Дасташкова таго, што яны ёсьць. Яны й так адчуваюцца, нават калі пра іх не гаварыць".**

Ёсьць усе асновы прыпушчаць, што гэнымі цяжкасьцямі, „якія замінаюць пісаць раман", была няспрыльная палітычная атмасфэра, што пачалася тады — на мяжы 1965 - 66 гадоў. Атмасфэра гэная не давала ўжо магчымасьці весьці далейшыя часткі „Палескай хронікі" ў тым ідэйным і мастацкім пляне, у якім былі напісаныя два першыя раманы цыклю — „Людзі на балоце" й „Подых навальніцы". Пацьвярджаюць гэта й наступныя словы ў згаданым Мележавым інтэрвю: **„. . . усё больш думаю пра тое, каб неяк звузіць эпічную шырыню тэй задумы, якая калісьці мяне хвалявала ў наіўных марах".**

Раман „Завеі, сьнежань", што друкаваўся ў сакавіку, красавіку й травені 1976 году, нажаль, з прычыны раптоўнае сьмерці ягонага аўтара, застаўся незакончаным. Але й з надрукаваных частак раману даволі ясна, што пісьменьнік застаўся ў новым сваім рамане „Завеі, сьнежань" на тых самых ідэйных пазыцыях, на якіх стаяў у першай палавіне 60-ых гадоў, калі зьявіліся раманы „Людзі на балоце" й „Подых навальніцы". Дык ясна, што прэтэнсіі партыі да прысабечваных ёю асобы Івана Мележа й ягонае творчасьці папартыйнаму шытыя залішня чырвонымі ніткамі (дакладней пра гэта чытач можа даведацца з трох маіх леташніх артыкулаў у „Беларусе" на сьмерць Івана Мележа: І. „Памёр Іван Мележ", № 232 за жнівень, 2. „На ўзвышшах пісьменьніцкай славы", № 233 за верасень і 3. „Апошні раман Івана Мележа „Завеі, сьнежань", № 234 за кастрычнік 1976 г.).

І вось апошняе перадсьмертнае слова Івана Мележа, апублікаванае жонкай пісьменьніка ў сёлетнім лютаўскім нумары „Маладосьці" пад загалоўкам „Гаварыць ад імя народу . . .". Публікацыя гэтая папярэджаная наступнай заціемкай жонкі пісьменьніка: **„У архіве Івана Мележа засталіся матарыялы, якія ён падрыхтаваў для друку, але не пасьпеў надрукаваць. Сярод іх — тэкст выступленьня на апошнім VII зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі, які Іван Мележ пасьля зьезду паправіў, унёс у яго некаторыя ўдакладненьні й паклаў у папку ненадрукаваных артыкулаў. Гэты папраўлены варыянт я і прапаную чытачом. Л. Я. Мележ-Пятрова".**

Іван Мележ на працягу апошніх дзесяцёх год быў старшынём прыёмнай камісіі, якая разглядала кандыдатуры маладых пісьменьнікаў дзеля прыняцьця іх ці няпрыняцьця ў Союз пісьменьнікаў Беларусі ды давала свае рэкамэндацыі апошняму. Вялікую часьць сваёй прамовы ён і прысьвяціў гэтаму пытаньню. Хоць у ёй шмат цікавага й дасюль няведамага ў гэтай справе, аднак спыняцца над ёй гэтта ня будзем, бо беспасярэдня яна не датычыцца да нашай тэмы. А спынімся адно на тэй часьці ягонай прамовы, якой ня было ў справаздачы ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 21 траўня 1976 году зь пісьменьніцкага зьезду або была вырваная з шырэйшага кантэксту, а якая зьмяшчае ў сабе важныя прынцыповыя разыходжаньні пісьменьніка з партыйнай лініяй у літаратуры.

Наўсуперак партыйнаму прынцыпу службовасьці літаратуры й патрабаваньня ейнае партыйнасьці, Іван Мележ пісаў: **„Нам замест лямянту пра сучасную тэму, трэба сур'ёзна й спакойна разабрацца ў тым, што мы маем, ацаніць як мае быць зробленае, выбраць усё, што зроблена належна, не зважаючы на маштабы й аб'ёмы, а кіруючыся адным — неадменным галоўным крытэрыем — майстэрствам, мастацкай дасканаласьцю". . .**

**„Калі-б мяне запыталіся, што я лічу самым важным для нас у цяперашні час, я-б сказаў: майстэрства й культура".**

Выходзячы з гэткіх далёка не партыйных пазыцыяў, Іван Мележ поўнасьцяй адкідае, як шкодны, замацаваны партыйнымі звышрупліўцамі прынцып: тэма вывязе. Ілюструючы гэтую думку на канкрэтным прыкладзе Івана Шамякіна, які заўсёды падхопліваецца рэкамэндаваныя партыяй тэмы й праблемы, адлюстроўвае іх без належнага майстэрства й культуры й у выніку, замест твораў запраўднага мастацтва, дае трафарэтныя агіткі. Іван Мележа піша: **„Думка І .П. Шамякіна пра тое, што талент праяўляецца ўжо ў выбары тэмы, на жаль, з майго вопыту, лішне аптымістычная. Калі згадзіцца з гэтай думкай, то мы павінны перавесьці ў ранг таленавітых многія творы, якія цяжка чытаць. Выбар тэмы нічога не рашае, выбар — гэта толькі выбар тэмы, подступ, толькі пачатак, і ўсё будзе залежаць, наколькі ўдасца зрабіць самае цяжкае — узьняць гэту тэму на ўзровень сапраўднага мастацтва".**

У наступных сваіх словах Іван Мележ гэтую сваю думку яшчэ больш паглыбляе й ілюструе яе на прыкладзе творчасьці іншага партыйнага звышрупліўца ў сучаснай беларускай літаратуры Велентына Мысьліўца. Ён піша: **„Нас розьніць са Львом Талстым і Анарэ Бальзакам перш за ўсё і больш за ўсё — майстэрства, узровень яго. Між тым бясьсьмерце і годнае месца Льву Талстому й Анарэ Бальзаку дало, як вядома, іменна майстэрства. І В. Мысьліўцу будзе ўгатавана бясьсьмерце й ганаровае званьне клясыка сусьветнага маштабу, калі ён будзе працаваць на ўзроўні Льва Талстога й Бальзака, нават на крыху ніжэйшым. Інакш ніякія тэмы і ўказаньне на важнасьць іх не памогуць".**

У далейшым Іван Мележ закранае яшчэ адно важнае прынцыповае пытаньне, насьвятляючы яго таксама з пазыцыяў далёка не партыйных: **„Даўно вядома, што творчая праца ня надта паддаецца цьвёрдай рэгляментацыі. Мы пра гэта гаворым і нібыта помнім, але, падобна, ня надта можам зьмірыцца з гэтым. А раптам без кіраўніцтва апарату літаратура пойдзе ня туды?**

**А яна, дарэчы, часам і ідзе ня туды, куды сьціроўвае апарат. Але ідзе туды, куды трэба, куды выкіроўвае літаратуру жыцьцё, не заўсёды відныя сілы жыцьця, законы разьвіцьця, чуласьць таленту".**

І яшчэ адна прынцыпова важная справа. Беларускім пісьменьнікам і чытацкай грамадзкасьці горка прыелася бесьперапыннае й строга рыгарыстычнае арыентаваньне беларускіх пісьменьнікаў на Пушкіна, Някрасава, Горкага й Маяўскага ды на сучасных расейскіх псісьменьнікаў, як на ўзоры недасягальнай дасканаласьці, быццам у сябе дома й няма нічога вартаснага. Вось-жа самым апошнім часам беларускія пісьменьнікі, заміж на чужых, пачалі наважана арыентавацца на сваіх найвыдатнейшых беларускіх пісьменьнікаў. Мае сваю асаблівую вымову, што якраз Іван Мележ выказаў гэта першым. У цытаванай публікацыі напярэдадні сваёй сьмерці ён сьцьвярджаў і заклікаў: **„. . . кіруюць нашым Саюзам (Саюзам пісьменьнікаў — Ст. Ст.) тыя, каго даўно няма — К. Чорны, М. Багдановіч, Я. Купала. Гэта па сутнасьці члены нашага сакратарыяту . . . Такі ён у сапраўднасьці, наш калектыў; наш аб'яднаны, некаранаваны сакратрыят. Гэты сакратарыят ня выбіраюць на зьездах. За яго не галасуюць рукамі, за яго галасуюць сэрцамі. У яго не ўваходзяць па ўзаемнай узгодненасьці на сходах, у яго ўваходзяць па вялікаму праву адзіназначных заслуг перад літаратурай, перад народам".**

І яшчэ:

**„Літаратура, яе воблік ствараецца перш за ўсё не ў кабінэтах СП** (Саюзу Пісьменьнікаў — Ст. Ст.), **а ў рабочых кабінэтах, у цішыні раськіданых па ўсяму гораду пакояў соцен шчырых, адданых працаўнікоў. Яе стварае жыцьцёвы вопыт многіх, розум многіх, сэрцы многіх, імкненьні многіх і надзеі многіх. Усіх нас".**

Гэткае апошняе слова Івана Мележа пра існасьць і заданьні роднае літаратуры, выказанае напярэдадні ягонае перадчаснае сьмерці. Навет для найбольшых сцэптыкаў і надаверкаў словы гэтыя духова вольнага пісьменьніка — гэта бясспрэчны довад і наймацнейшае пацьверджаньне, што Іван Мележ закончыў сваё жыцьцё не з пачуцьцём адданасьці для партыі, а роднаму яму беларускаму народу і гэткім застанецца ён у гісторыі беларускай літаратуры.



© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Два артыкулы пра Беларусь зьмешчаныя ў новай кнізе** "National ism in the USSR & Eastern Europe in the era of Brezhnev and Kosygin". Аўтары артыкулаў др. В. Кіпель і др. Я. Запруднік. Гэта іхныя рэфэраты, якія яны прачыталі на канфэрэнцыі, праведзенай на Дэтройцкім унівэрсытэце ў 1975 годзе. У кнізе апублікаваныя ўсе матар'ялы гэнае канфэрэнцыі. Каштуе яна ў мяккой вокладцы 6,95 дал., а ў цьвярдой — 12 дал. Выпісаць яе можна з выдавецтва:

University of Detroit Press,
4001 W. McNichols Rd.,
Detroit, Mich. 48221.

**Брашура з дакумэнтальнымі матар'яламі пра Дзень Незалежнасьці Беларусі ў двухсотым годзе ЗША** выйшла з друку ў выдавецтве БАЗА. На 32-х бачынах брашуры вялікага фармату зьмешчаныя: інфармацыя пра Беларусь, артыкул пра беларускі нацыяналізм, прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў у Кангрэсе ЗША, фатастаты праклямацыяў Дня Беларускае Незалежнасьці ў штатах і гарадох Амэрыкі, выбраная бібліяграфія кніжак і артыкулаў пра Беларусь у ангельскай мове. Брашура загалоўленая "Byelorussian Independence Day in America's Bicentennial Year". Цана брашуры: 2 дал.

**У інтэрвію із сп-ствам В. і Г. Русакоў,** зьмешчаным у газэце "The Home News" (29. II. 77), што выходзіць у Нью Брансьвіку, гаворыцца пра беларускую народную вопратку ды беларускія народныя вырабы, што будуць паказвацца (і прадавацца) на сёлетнім беларускім фэстывалі ў ньюджэрзійскім штатавым Цэнтры Мастацтваў 21 травеня.

**Вялікі артыкул пра ведамую беларускую мастачку Ст. Тамару** (сп-ню Кольбу-Стагановіч) апублікаваны ў газэце "Asbury Park Press" (1. III. 77). Артыкул ілюстраваны рэпрадукцыямі розных ілюстрацыяў з мастацкага афармленьня кніжак сп-няй Кольбай.

**Аналіз дэмаграфічнае статыстыкі Беларусі за пэрыяд 1897-1939 гг.** ды зьвязаныя з гэтым пытаньні нацыянальнае самасьведамасьці й асыміляцыі становяць тэму навуковага дасьледваньня Стывэна Гут'е зь Мічыганскага ўнівэрсытэту ў ЗША, апублікаванага ў часапісе „Сов'ет Стадыз", што выходзіць пры Глязгаўскім унівэрсытэце ў Вялікабрытаніі. Артыкул апублікаваны ў томе XXIX, Нр. I за студзень 1977 году. Працяг артыкулу — у наступным нумары гэтага квартальніка.

**Ліст у рэдакцыю сп. Сяргея Грамыкі зьмясьціла газэта „Норвіч Бюлэтэн"** (21. III). Ліст зьмешчаны пад загалоўкам „Беларускі Дзень". У ім пададзеныя асноўныя факты зь гісторыі станаўленьня Беларускае Народнае Рэспублікі. „Цяпер", піша сп. С. Грамыка, „Беларусы на бацькаўшчыне ня маюць магчымасьці бараніць сваіх нацыянальных правоў. Затым Беларусы Амэрыкі прасілі сваіх дзяржаўных кіраўнікоў падтрымаць жыданьні беларускага народу вызваленьня з савецкага рабства праз абвяшчэньне дня 25 сакавіка 1977 году днём Беларускае Незалежнасьці ў Задзіночаных Штатах".

Гэткая праклямацыя была выдадзеная губэрнатарам штату Канэтыкэт, у якім сп. Грамыка жыве.

**Мастак Анатоль Чайкоўскі, які** жыве й займаецца малярствам у гор. Мюнхэне ў Заходняй Нямеччыне, прыцягнуў увагу да сваіх абразоў міжнародна ведамае Гамбурскае галярэі, якая закупіла ў яго колькі ягоных твораў.

**Сп. Ул. Брылеўскі апублікаваў у сакавіковым нумары польскага месячніка „Культура" (бб. 107-110)** цікавую й інфармацыйную падборку „беларускае хронікі" зь беларускага савецкага й эміграцыйнага друку.

**Новы зборнік паэзіі „ЗАГРАВИ ВЕЧІРНІ" украінскага паэты на Захадзе Ів. Кметы-Ічнянськага** нядаўна выйшаў з друку. У вадным зь вершаў зборніка прыязна згадваецца й пра Беларусь.

# ДРОБЯЗЬ І ГАЛЕЧА...

(Заканчэньне зь 7-ай бачыны)

маецца ленінскага запавету „граб награбленае", або літаральна разумее партыйную прапаганду, што „ўсё належыць народу, усё наша", дык у залі ёсьць прынамся тузін вартаўнікоў, з начальнікам вялікім, што зыркае вока навокал трымаючь... Чаго добрага, палажыце якую добрую каўбасу, ці вяндліну, дык убачыце, як сваё вуха!

У 1957 годзе, падчас сусьветнага камуністычнага фэстывалю моладзі ў Маскве зьніклі з вуліцаў... вораны. Для ведама непаінфармаваных: маскоўскія вораны, гэта чорныя, закрытыя машыны для перавозу вязьняў. У сярэдзіне ёсьць месца для пяцёх канвойнікаў, двух сабак і трыццацёх вязьняў.

Вораны перамалявалі на шэры колер і навокал прыгожа папанапісвалі пагандлёваму: Фрукты, Овачы, Бітая Дзіч. Вось як выдумалі, махляры!

Няма сумлеву, што й падчас алімпіяды ў 1980-м годзе зьнікнуць з вуліц Масквы (а мо й Менску) вораны й павялічыцца транспарт „бітае дзічы". Гэткае вось магчыма, пакуль запраўдная дзіч, на вялікі жаль яшчэ жывая, сядзіць пры ўладзе, ды загадвае кадэбэшніцкім пісакам ганьбаваць нашых патрыётаў, што гордзяцца сваёй беларускасьцяй у Вольным Сьвеце!

**К. Акула**

# ЗВАРОТ — ПРОСЬБА

Пачынаючы з кастрычніка 1947 году й да канца 1966 году, звычайна рэгулярна, а часамі зь перарывамі, у залежнасьці ад абставінаў, выходзіла ў Мюнхэне, Нямеччына, беларуская нацыянальная газэта „Бацькаўшчына". Пра вялізнае гістарычнае значаньне й вартасьць яе сьветчыць хоць-бы той факт, што гэта адзіная эміграцыйная беларуская газэта, якую, хаця й адмоўна, згадвае навет Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя, называючы яе органам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (гл. БелСЭ, т. 2, бачына 189). Для таго, хто з „Бацькаўшчынай" меў ці будзе мець дачыненьне, добра ведама, што гэта ня толькі газэта, орган прэсы, а запраўдная энцыкляпэдыя ведаў і матарыялаў пра жыцьцё й дзейнасьць беларускае палітычнае эміграцыі.

Бяручы гэта на ўвагу, аўтар гэтых радкоў на працягу некаторага часу працуе над скаталягаваньнем усіх матарыялаў, зьмешчаных у ейных 637-ёх нумарох на працягу амаль 19-ёх гадоў ейнага існаваньня, асабліва тых, якія датычацца беспасярэдня да беларускага нацыянальнага жыцьця, беларускае эміграцыі, ейнае палітычнае, рэлігійнае, культурнае й іншае дзейнасьці. Аб неабходнасьці гэткага каталёгу ведае кажны той, хто стыкаецца зь беларускай праблематыкай, у першую чаргу навукоўцы, журналістыя, супрацоўнікі радыяперадачаў і г. п. Аднак дзеля розных прычынаў некаторых нумароў газэты ў мяне не хапае. Дзеля гэтага зьвяртаюся ветліва да ўсіх тых суродзічаў, у якіх пералічаныя ніжэй нумары ёсьць падвойныя, лішнія ці непатрэбныя, і прашу, каб напісалі й паведамілі пра гэта на наступны адрыс:

V. Sienkievic
Apdo. 74, Palamós (Gerona)
Spain.

Нумары „Бацькаўшчыны", якія патрэбныя для камплету заплянаванага каталёгу: 538, 543-566, 568, 576, 580 і 582 з 1961 году, а таксама № 632 за 1965 год.

Дзякуючы шчыра загадзя за пазытыўны й хуткі водгук, застаюся з пашанаю

**В. Сенкевіч**

### НЯ ВЫКАРАНІЦЬ З ДУШЫ НАРОДУ!

Адзін з важных адрэзкаў нацыянальнага жыцьця беларускага народу становяць ягоныя народныя абрады й нацыянальныя традыцыі, атрыманыя ў спадчыне ад ранейшых пакаленьняў. У мэтах выкараненьня гэтых нацыянальных скарбаў з народнае душы, камуністычная партыя вядзе інтэнсыўную дзейнасьць у кірунку замены старажытных народных абрадаў абрадамі грамадзянскімі, інакш кажучы, чыста савецкімі. Гэтак заміж традыцыйных народных вясельляў уводзіцца абрад г. зв. камсамольскіх вясельляў, заміж сямейнага абраду хрэсьбінаў уводзіцца савецкі абрад г. зв. акцябрыны, заміж традыцыйных беларускіх дажынак — сьвята ўраджаю. І цэлы рад іншых абрадаў і савецкіх сьвяткаваньняў, на пералічэньне якіх давялося-б страціць шмат месца.

На шчасьце, штучна твораныя паводля аднолькавага шаблёну гэныя грамадзянскія абрады вельміж неахвотна прыймаюцца навет сябрамі Камуністычнае партыі, ня кажучы ўжо пра людзей звычайных. Гэтак колькі год таму сам сакратар Цэнтральнага Камітэту Камуністычнае партыі Беларусі публічна зьвінаваціў партыйцаў і савецкі актыў беларускае сталіцы за тое, што на працягу аднаго году было зладжана ў Менску ўсяго 15 камуністычных „акцябрынаў" пры звыш 19-ёх тысячах нараджэньняў у гэным годзе.

У сувязі із занядбоўваньнем сьвяткаваць грамадзянскія абрады, ажывілася асабліва апошнім часам у БССР акцыя ў кірунку якраз іхнага ўкараненьня. З гэтаю мэтаю робяцца спробы, таксама беспасьпяховыя, будаваць новыя грамадзянскія абрады паводля старых народных формаў.

**Р. С.**

# СПРАВА БЕЛАРУСКАГА ЭТНАГРАФІЧНАГА МУЗЭЮ ПАД АДКРЫТЫМ НЕБАМ

У газэце „Зьвязда" за 17 сакавіка сёлета зьявіўся вялікі артыкул ведамага беларускага пісьменьніка Ўладзімера Караткевіча „Наш агульны клопат". Артыкул пачынаецца гэткай інфармацыяй: **„У канцы мінулага году Савет міністраў БССР прыняў пастанову „Аб стварэньні беларускага дзяржаўнага музэю народнай архітэктуры і быту". Рашэньне гэта — адно з красамоўных сьветчаньняў клопатаў нашай партыі і ўраду аб далейшым разьвіцьці беларускай народнай культуры".**

Шчыра трэба прызнацца, што пра гэныя „клопаты партыі і ўраду аб далейшым разьвіцьці беларускай народнай культуры" мы ўпяршыню даведаліся з артыкулу Ўладзімера Караткевіча. Бо й адкуль-жа было даведацца? Хоць гэная пастанова Савету міністраў БССР была прынятая яшчэ ў канцы мінулага году, газэта „Літаратура і Мастацтва", якая старанна рэгіструе навіны з культурнага жыцьця Беларусі, не згадала пра гэную пастанову ніводным словам і да сяньня. Ня прыгадваем, каб, апрача артыкулу Ўладзімера Караткевіча, былі раней нейкія шырэйшыя водгукі пра гэную пастанову ў штодзённым рэспубліканскім друку БССР.

Тымчасам пастанова гэная, пра якую піша ў сваім артыкуле Ўладзімер Караткевіч, датычыць да вельмі важнага культурнага пытаньня — стварэньня за прыкладам некаторых іншых рэспублікаў Савецкага Саюзу вялікага этнаграфічнага музэю пад адкрытым небам. Вось як у сваёй пісьменьніцкай фантазіі ўяўляе сабе гэткі музэй Уладзімер Караткевіч у згаданым сваім артыкуле:

**„... Уявіце сабе вялікае вадасховішча, хваёвы і лісьцёвы лес на яго берагох, а ў гэтым лесе, на ўзьлесьсі і палянах, зьвезеныя з усіх канцоў Беларусі будынкі. Срэбна-шчапяныя дахі і залаціста-саламяныя стрэхі. Разьблёныя ліштвы і франтоны. Махаюць крыламі ветракі, шуміць вадзяны млын. У лесе — лясьнічоўка. На беразе — рыбакова хата. Над вяндлярнямі — ядлоўцавы дымок. Тут тыповы сялянскі двор з Полаччыны ці Ушаччыны, крыху далей — слуцкі ці рагачоўскі двор. Уся наша рэспубліка як на далоні на плошчы нейкіх сто гэктараў. На невялікай плошчы — усе праявы помнікаў народнага будаўніцтва: жылога, грамадзкага, вытворчага й іншых".**

**„А паколькі людзі ня жывуць і ня жылі ў пустых хатах", — прадаўжае далей Уладзімер Караткевіч, — „то для хаты кожнага рэгіёну павінна быць і мясцовае ўнутранае ўбранства: розныя тыпы печак, мэблі, начыньня, посуду, ткацтва, прадметаў быту — ад драўлянай лыжкі да гаршка, ад старых цымбалаў да сальнічкі".**

У далейшым пісьменьнік пералічае іншыя дэталі старога народнага быту, што павінны знаходзіцца вакол хатаў і іншых збудаваньняў, а ўсё гэта разам павінна даваць поўнае ўяўленьне нядаўнае гісторыі будзённага жыцьця й працы нашага народу. Гісторыі, што з разьвіцьцём сучаснае цывілізацыі хутка зьнікне або й зьнікла ўжо з абліча зямлі. Няма патрэбы й даводзіць, якое вялікае, проста бясцэннае навуковае, нацыянальнае, культурнае, мастацкае й якое толькі хаця, адно не палітычна-агітацыйнае каштоўнасьці быў-бы падобны музэй пад адкрытым небам. І можна сьмела зарызыкаваць цьверджаньне, што калі-б гэткі музэй мог служыць актуальным ідэалягічна-палітычным мэтам партыі, ён быў-бы створаны даўным-даўно ўжо. Гэтак, як Музэй Вялікай Айчыннай вайны, як мэмарыяльныя комплексы, як помнікі баявой славы, якіх, як падавала газэта „Літаратура і Мастацтва" ў сваім 6-ым нумары за 6 лютага летась, узьведзена на Беларусі больш за дзесяць тысячаў!

Каб нас ня зьвінавацілі ў галаслоўных дакорах з прычыны занядбаньня й няўвагі партыі да помнікаў народнае культуры ды ў нашым сумляваньні ў шчырасьць апошняе пастановы Савету міністраў БССР, зьвернемся да фактаў. Вось-жа пытаньне стварэньня ў Беларусі этнаграфічнага музэю пад адкрытым небам было пастаўленае шырокай грамадзкасьцяй на парадку дня больш чымся дзесяць год таму — у 1966 годзе. У 68-ым нумары газэты „Літаратура і Мастацтва" ў гэным годзе зьявілася было „Пісьмо ў Рэдакцыю" пад загалоўкам „Створым этнаграфічны музэй", якое падпісалі найбольш аўтарытэтныя прадстаўнікі беларускага мастацтва, літаратуры, культуры й навукі. Яны пісалі:

**„Нам трэба ўсяляк клапаціцца аб тым, каб наша гісторыя не загінула, ня зьнікла бясьсьледна. І аднэй зь дзейсных формаў яе ўвекавечаньня быў-бы этнаграфічны музэй пад адкрытым небам, альбо філіял Дзяржаўнага музэю БССР, што ўяўляў-бы сабой цэлую вёску з рознага тыпу дамоў, гаспадарчых і іншых будынкаў, сьцягнутых з усіх куткоў Беларусі, дзе была-б дакладна ўзноўленая абстаноўка, у якой жылі нашы людзі на працягу некалькіх апошніх стагодзьдзяў".**

Гэтае „Пісьмо ў Рэдакцыю" запачаткавала цэлую кампанію за стварэньне беларускага этнаграфічнага музэю пад адкрытым небам, як „важную дзяржаўную справу". Але надрукаваўшы гэтае „Пісьмо" й колькі энтузіястычных на яго водгукаў, газэта „Літаратура і Мастацтва", пэўне-ж ня безь незалежных ад яе прычынаў, спыніла далейшае іхнае друкаваньне. І справа гэтая, з гэткім энтузіязмам пачатая, зусім заглухла... на цэлыя чатыры гады. І толькі пасьля чатырох год пытаньне стварэньня ў Беларусі этнаграфічнага музэю пад адкрытым небам ува ўсёй вайстрыні й прынцыповасьці было пастаўленае ўзноў. Яго паставіў А. Мартынаў у артыкуле „Для сябе і для патомства" ў лістападаўскім нумары расейскамоўнага часапісу „Неман" у 1969 годзе. На гэты артыкул і ў адказ на запытаньні шмат якіх Беларусаў, якія манумэнтальныя збудаваньні будуць узьведзеныя ў Беларусі, адказаў намесьнік міністра культуры БССР А. Ваніцкі адмысловым артыкулам „Захаваць у памяці народнай" у „Зьвязьдзе" за 19 жніўня 1970 году. Між іншым ён пісаў:

**„У вапошні час насьпела пытаньне аб стварэньні ў Беларусі гістарычна-этнаграфічнага музэю, аб захаваньні старажытных сядзіб, экспанатаў, якія адлюстроўваюць побыт беларускага народу ў мінулым... Захаваць такія этнаграфічныя помнікі беларускага народу для нашчадкаў можа гістарычна-этнаграфічны музэй на адкрытым паветры".**

Намесьнік міністра культуры БССР паінфармаваў у тым-жа артыкуле, што, кажучы ягонымі словамі,

**„Міністэрства культуры БССР, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру Акадэміі навук БССР, Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры праводзяць ужо выяўленьне пабудоў, якія могуць стаць экспанатамі нацыянальнага парку".**

З прыведзенай цытаты відаць, што пастанова пра стварэньне беларускага этнаграфічнага музэю пад адкрытым небам была прынятая ўжо цэлых шэсьць год таму, але на прыняцьці гэтае пастановы й скончылася ўся справа. Пастанова-ж Савету міністраў БССР канца леташняга году ідэнтычная гэнай пастанове зь перад шасьцю год і паўтарае яе цюцелька ў цюцельку. Дык адкуль-жа тады пэўнасьць, што й гэтым разам дзяржаўная пастанова не павісьне ў паветры таксама?

Не зважаючы на гэта, сёлетні сакавіковы артыкул Уладзімера Караткевіча ў „Зьвязьдзе" моцна карысны й мэтазгодны. У ім пісьменьнік ня толькі бярэ жаданае за запраўднае, але й мабілізуе грамадзкую думку на далейшыя патрабаваньні стварэньня на Беларусі этнаграфічна-гістарычнага музэю пад адкрытым небам, патрабаваньні даўно насьпелыя, справядлівыя, з кажнага гледзішча карысныя ды, бяручы аб'ектыўна, цалком магчымыя ў сяньняшніх абставінах Беларусі.

**Ст. Станкевіч**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (ад 16 сакавіка да 15 красавіка 1977) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**I. ЗША:**

**А. На сьвяткаваньні 59-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў Нью Ёрку 27 сакавіка сёлета заахвяравалі:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р Ул. Набагез | $ 100.00 |
| 2. Праньціш Бартуль | 75.00 |
| 3. І.Дутка | 20.00 |
| 4. Матушка Марыя Войтанка | 15.00 |
| 5. В. Шудзейка | 10.00 |
| 6. Т. Кольба | 10.00 |
| 7. М. Тулейка | 10.00 |
| 8. Ю. Андрусышына | 10.00 |
| 9. М. Кіпель | 10.00 |
| 10. З. Кіпель | 10.00 |
| 11. Ул. Русак | 10.00 |
| 12. Мгр. М. Кунцэвіч | 10.00 |
| 13. Я. Сокал | 10.00 |
| 14. Л. Корчык | 10.00 |
| 15. А. Шукелайць | 10.00 |
| 16. Д-р Я. Запруднік | 10.00 |
| 17. П. Міpановіч | 10.00 |
| 18. Р. В. | 10.00 |
| 19. А. Субота | 6.00 |
| 20. Б. Даніловіч | 5.00 |
| 21. С. Гутырчык | 5.00 |
| 22. Я. Азарка | 5.00 |
| 23. А. Балкоўскі | 5.00 |
| 24. М. Каранеўскі | 5.00 |
| 25. Стаўпецкі | 5.00 |
| 26. Ул. Сьліўка | 5.00 |
| 27. А. Андрыца | 5.00 |
| 28. М. Сільвановіч | 5.00 |
| 29. В. Кажан | 5.00 |
| 30. В. Стома | 5.00 |
| 31. В. Ярашэвіч | 5.00 |
| 32. Ул. Курыла | 5.00 |
| 33. К. Верабей | 5.00 |
| 34. Р. Станкевіч | 5.00 |
| 35. З. Станкевіч | 5.00 |
| 36. П. Пятроў | 5.00 |
| 37. Н. Д. | 3.00 |
| 38. П. Кажура | 2.00 |
| 39. С. Дудар | 2.00 |
| 40. Дж. Георгіеў | 2.00 |
| 41. Л. Златкоў | 2.00 |
| 42. Ананімна | 2.00 |
| 43. Ананімна | 2.00 |

**Разам: $ 456.00**

**Б. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р М. Шчорс | $ 50.00 |
| 2. Жыхары гораду Лёс Анджэлесу заміж вянка на магілу Сьв. Пам. Філарэта Родзькі, згодна асобнай зацемкі на іншым месцы | 50.00 |
| 3. Сям'я з Кліўленду, заміж вянка на сьвежую магілу Сьв. Пам. Філарэта Родзькі, згодна асобнай зацемкі на іншым месцы | 25.00 |
| 4. М. Артон | 30.00 |
| 5. М. Беламук | 20.00 |
| 6. М. Казлоўскі | 10.00 |
| 7. Парахвія Сьв. Духа ў Дэтройце | 10.00 |
| 8. Н. Жызьнеўскі | 10.00 |
| 9. К. Мерляк | 10.00 |
| 10. Д. Ясько | 10.00 |
| 11. В. Омэлюсік | 10.00 |
| 12. В. Шчэцька | 10.00 |

**Разам: $ 245.00**

**II. КАНАДА:**

| | |
|---|---|
| 1. П. Попель | $ 9.50 |
| 2. А. Ціхановіч | 9.50 |

**Разам: $19.00**

**Усяго разам: $ 720.00**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**